5 кастрычніка 2018 | № 36 (599)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час
novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ
ISSN 2218-2144

Хурал бярэ ўладу
Стар. 9

4 «НАФТА Ў АБМЕН НА ПАЦАЛУНКІ» — РЭАЛЬНАСЦЬ АБО МЕТАФАРА?




5 «ЧАКАЙЦЕ МАЙГО АДКАЗУ»

Брытанец Алан Сміт, асуджаны ў Беларусі па абвінавачванні ў арганізацыі незаконнай міграцыі, выйшаў на волю. І не збіраецца пакідаць дзеянні беларускіх уладаў проста так

6–7 ЯК ЗАБІВАЛІ СКРЫПАЛЯ

Расійскія башыравы і пятровы актыўна дзейнічаюць і непасрэдна на тэрыторыі Беларусі, адзін з яскравых доказаў гэтага — выкраданне ўкраінца Паўла Грыба

11 У ПОШУКАХ РЭНАМЭ

Паэт і грамадскі дзеяч Славамір Адамовіч выправіўся ў вандроўку на радзіму Зянона Пазняка і да Астравецкай атамнай станцыі...



# Ці па кішэні Расіі «Іскандэры» ў Беларусі?

## Масква можа «не пацягнуць» кампенсацыю стратаў Беларусі ад расійскай вайсковай прысутнасці



Сяргей ПУЛЬША

Пасля перамоваў Пуціна і Лукашэнкі ў Сочы нам казалі, што «канкрэтным сэнсам» яны напоўняцца ў наступныя сустрэчы. Адна з такіх ужо адбылася — у Душанбэ падчас саміту кіраўнікоў дзяржаў СНД. Уласна сустрэча кіраўнікоў Расіі і Беларусі запланаваная не была, аднак яны каротка перамовіліся ў кулуарах.

Кіраўнік Беларусі анансаваў тыя перамовы так, што, маўляў, будзе канчаткова развязаная праблема вяртання Расіяй экспартных пошлін за нафту ў беларускі бюджэт. Пра гэта дасюль нічога невядома. Аднак нечакана Лукашэнка ў чарговы раз абрынуўся на злавесные NATO, якое цягне свае кіпцюры да нашых межаў: «Улічваючы яшчэ і тыя небяспекі і выклікі, якія ўтойваюць у сабе дзеянні заходніх дзяржаў і NATO каля нашых межаў, ля межаў Саюзнай дзяржавы».

Прычым, падступнага ворага абвінавацілі яшчэ і ў тым, што «з падачы Захаду безапеляцыйна, у аднабаковым парадку руйнуецца ствараемая дзесяцігоддзямі сістэма міжнароднага гандлю».

Праўда, невядома, што пры гэтым меў на ўвазе Аляксандр Рыгоравіч, бо асноўныя «гандлёвыя войны» ў нас вядуцца не з заходнімі партнёрамі, а якраз з усходнім. Больш за тое, вялікі профіт Сінявокая атрымлівае не ад заходніх санкцый, а ад расійскіх «антысанкцый», якія забаранілі ў нашага ўсходняга саюзніка еўрапейскія харчы.

Што ж да NATO, меркаванай амерыканскай базы ў Польшчы і «сіметрычнага адказу» — размяшчэння ў Беларусі расійскага вайсковага аб'екту, то тут узнікае вялікі шэраг пытанняў. Маскоўскія каментатары кажуць, што ў адказ на развязанне эканамічных праблемаў Мінск не будзе пярэчыць стварэнню ваеннай базы РФ. Кажуць ужо нават не проста пра «Іскандэры», а пра «паўнавартасную расійскую ваенную базу з авіяцыяй, танкамі і пяхотай».

Насамрэч, гэтае пытанне значна больш складанае, чым «наш адказ NATO». Беларусь мяжуе не толькі з Польшчай.

Можна адназначна сказаць, што змяшчэнне на нашай тэрыторыі такога аб'екта выкліча рэзка адмоўную рэакцыю на Поўдні — ва Украіне. Што Беларусі, канешне, абсалютна нявыгадна.



Фота www.dialog.ua

Украіна нам нават важнейшая за Расію. Безумоўна, у Расію ў нас ідзе львіная доля экспарту, яна — асноўны пакупнік беларускай прадукцыі. Але станоўчае сальда знешняга гандлю ў нас менавіта з Украінай. То-бок, нягледзячы на велізарнейшы тавараабарот, у Расіі мы грошы губляем, а ва Украіне — зарабляем.

Украінцы вельмі нервова рэагуюць на ўсялякія «небратэрскія» паводзіны Беларусі. Аднойчы, праз галасаванне ў ААН пра Крым на карысць Расіі, гарачыя казацкія галовы паспрабавалі арганізаваць грамадскі байкот беларускай прадукцыі. Чым адгукнецца стварэнне на нашай тэрыторыі вайсковай базы краіны, з якой у Украіны вайна, — цяжка ўявіць.

Расійскі вайсковы аб'ект на нашай тэрыторыі, напэўна, канчаткова пахавае Мінск як перамоўную пляцоўку па разрульванні сітуацыі ў Данбасе. Можна шмат казаць пра тое, што «Мінскія дамовы» і «Мінскі працэс» паўмёртвыя, аднак менавіта на гэтым грунтуецца «наша ўсё» — сусветны імідж Беларусі як «донара стабільнасці ў рэгіёне». Пакуль Сінявокай, нягледзячы на агульную з Расіяй знешнюю палітыку і вайсковыя вучэнні «Захад–2017», коштам неймаверных дыпламатычных высілкаў удавалася захоўваць выгляд нейтралітэту. Гэты выгляд, у сваю чаргу, дазваляў захоўваць і перамоўную пляцоўку ў Мінску, на што заўсёды звяртала ўвагу нашае знешнепалітычнае ведамства ў перамовах з заходнімі партнёрамі.

І раней ва Украіне, пры несяброўскіх паводзінах Беларусі, выступалі за перанос гэтай пляцоўкі. Але выступалі квола. Са з'яўленнем у Беларусі паўнавартаснай расійскай вайсковай базы ні пра які нейтралітэт казаць і не выпадае. А таму Мінск, найверагодна, гэтую пляцоўку страціць — разам з іміджам «донара стабільнасці».

Тым больш, што альтэрнатыва беларускай сталіцы знойдзецца вельмі хутка — такі прывабны дыпламатычны кавалак шмат каго цікавіць. У студзені гэтага года прыняць перамоўшчыкаў быў не супраць Нурсултан Назарбаеў. Тады беларускі МЗС, у чарговы раз падкрэсліўшы, што Беларусь на ролю міратворцы «не напрошвалася», насамрэч даў казахскаму лідару даволі жорсткі адлуп.

Але, калі ў нас з'явіцца расійская вайсковая база, пра прапанову Назарбаева ўзгадаюць многія. Перш за ўсё ва Украіне.

І ўжо дакладна само сабою вырашыцца пытанне, якое падняў Лукашэнка пасля Сочы — пытанне ўзмацнення мяжы з Украінай. Нашы паўднёвыя суседзі будуць вымушаныя яе ўзмацняць, каб расійская база «супраць NATO» не ператварылася ў базу «супраць Украіны», што насамрэч даволі верагодна.

Ва ўсім свеце страты магчымасцяў і іміджавыя страты маюць і грашовае вымярэнне. У нашым выпадку іміджавыя страты будуць такімі, што значна пераўзыдуць і «ператоможку» расійскай нафты, і нават той прыбытак, калі раптам (што неверагодна) скончацца ўсе нашы войны з Рассельгаснаглядам.

Гэтыя страты павінен нехта кампенсаваць. І вельмі сумняваюся, што ў Расіі зараз ёсць такія грошы. Імідж каштуе вельмі дорага.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Яшчэ раз пра «бульбаша»

**Беларусаў чарговы раз прынізілі і плюнулі ў іх бок. І зрабіла гэта адміністрацыя Слуцкага хлебазавода, якая для новага гатунку хлеба прыдумала назву «Бульбаш».**

Газета «Новы Час» ужо пісала і пра гэта, і пра той адказ, які прыйшоў ад кіраўніцтва Слуцкага хлебазавода. Не трэба быць філолагам ці моваведам, каб ведаць, што слова «бульбаш» — гэта абразлівая мянушка для беларусаў. І я думаю, што тыя людзі, якія новы гатунак хлеба назвалі «Бульбаш», гэта цудоўна разумеюць. Іх мэта, на маю думку, — паказаць усяму свету, што ў беларусаў няма нацыянальнай годнасці.

Колькі ні пісалі, колькі ні змагаліся з гарэлкай «Бульбашъ», а яна запаланіла ўсе беларускія крамы. На ўласныя вочы бачыў, як хіхікалі нейкія замежнікі, трымаючы ў руках пляшкі з гарэлкай «Бульбашъ». Гэта пытанне з «бульбашом» мог бы вырашыць адзін тэлефонны званок. Але такога званка не дачакаюцца. І будуць слуцкіх беларусаў і ўсіх іншых карміць хлебам «Бульбаш».

Хацелася б распавесці пра адзін выпадак з уласнага жыцця. Масква, 2001 год. Я прыехаў на заробкі. Гаспадар, былы расійскі вайсковец, пытаецца: «Скуль прыехаў?». Адказваю, што з Беларусі. «А, бульбаш, — і працягвае, — тры дні пажывеш з узбекамі, а потым прыедуць трое хахлоў, што летась у мяне працавалі, і будзеш жыць з імі. А цяпер паедзем на лецішча».

Прыехалі, выходзіць узбек. Гаспадар сустракае словамі: «Саід, гэта Саша — бульбаш, пакуль пажыве ў вас». Я прамаўчаў. На наступны дзень, раніцай ідзе Саід і вітаецца: «Здароў, бульбаш!». Адказваю: «Здароў, Саід!» На другі дзень паўтараецца тое ж самае: «Здароў, бульбаш!» — «Здароў, Саід!» На трэці дзень — тое самае: «Здароў, бульбаш!». Я адказваю: «Здароў, чурка!».

Трэба было бачыць твар гэтага чалавека, на імгненне мне здалося, што трэба развітвацца, калі не з жыццём, то са здароўем. Але кулакі яго расціснуліся. І ён бліжэй да мяне падышоў і спытаў: «Саша, за што ты мяне так пакрыўдзіў, што я табе кепскага зрабіў?». «Саід, — адказваю, — ты мяне крыўдзіш ужо трэці дзень. Таму, што для мяне слова "бульбаш" — гэта тое самае, што для цябе "чурка"». «Саша, матуляй клянуся я, я не ведаў», — сказаў Саід і адразу паклікаў сваіх землякоў і сказаў ім: «Сашу бульбашом не называць, таму што "бульбаш" — гэта "чурка"». Разам мы пражылі амаль што два месяцы…

Адміністрацыя Слуцкага хлебазавода разам са сваім дырэктарам пра гэта сказала б напэўна так: адзін бульбаш, трое хахлоў і сем чурак працавалі на аднаго маскаля! І гэта іх выказванне не супярэчыла б дзейснаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь.

**Алесь Сярожкін, г.Орша**

# Тыдзень супраць смяротнага пакарання: Што? Дзе? Калі?

**Традыцыйна з 5 па 10 кастрычніка ў Беларусі праходзіць Тыдзень супраць смяротнага пакарання. На гэты раз праваабаронцы і прыхільнікі адмены смяротнага пакарання прыцягнуць увагу грамадскасці да ўмоў утрымання зняволеных у камерах смяротнікаў.**




Кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» прапануе наступную афішу мерапрыемстваў.

**5 кастрычніка**

**Віцебск.** Фестываль «Рок за жыццё». Музыкі ў падтрымку ўвядзення маратория на смяротнае пакаранне (Re1ikt, «Разбітае сэрца пацана», Teleport і Nizkiz). Бітлз-клуб «Чардачок», вул. Кастрычніцкая,12. Пачатак у 20:00.

**6 кастрычніка**

**Вішнева, Валожынскі раён.** Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі. Імша, прысвечаная Святому Аброзію Медзіяланскаму (340–397гг). Святы Аброзій вядомы тым, што выступаў супраць смяротнага пакарання. Пачатак у 12:00.

**7 кастрычніка**

**Мінск.** Фестываль «Рок за жыццё». Музыкі ў падтрымку ўвядзення маратория на смяротнае пакаранне (Nizkiz, «Петля Пристрастия», «Мутнаевока», SnopSnoŭ і Teleport). Клуб RE:PUBLIC, вул. Прытыцкага, 62. Метро — станцыя «Кунцаўшчына». Пачатак у 17:30.

**8 кастрычніка**

Мінск. Паказ фільма па тэме смяротнага пакарання з абмеркаваннем і ўдзелам актывістаў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» і Валанцёрскай службы «Вясны».

**9 кастрычніка**

**Гомель, Слуцк.** Паказы фільмаў па тэме смяротнага пакарання з абмеркаваннем і ўдзелам праваабаронцаў і актывістаў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэя Палуды і Паліны Сцепаненка.

**10 кастрычніка**

**Мінск.** Прэзентацыя выставы «Кожны мае права ведаць свае правы». Відовішча з удзелам вядомай мастачкі і перформера Таццяны Тур. Перфоманс, прысвечаны праблеме смяротнага пакарання, распавядзе аб пакутах родных і блізкіх асуджаных. Месца — Амбасада Літоўскай рэспублікі.

**Стасбург.** Выступ праваабаронцы Валянціна Стэфановіча на тэму смяротнага пакарання ў Камітэце па прававых пытаннях і правах чалавека ПАСЕ Савета Еўропы. Пачатак у 14-00 па мясцовым часе.

16-ты Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання: Умовы ўтрымання ў камерах смяротнікаў. 10 кастрычніка Сусветная кааліцыя супраць смяротнага пакарання прыцягне ўвагу грамадскасці да ўмоў утрымання зняволеных у камерах смяротнікаў і прапануе дзесяць варыянтаў дзеянняў, як вы можаце далучыцца да барацьбы супраць смяротнага пакарання.

Цягам дня праваабаронцы і актывісты правядуць на вуліцах рэгіянальных гарадоў інфармацыйныя акцыі з нагоды Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання. Сачыце за афішамі асобных мерапрыемстваў на сайце spring96.org, у сацыяльных сетках.

ПЦ «Вясна» і актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» прапануюць у гэтыя дні ўсім жадаючым прыняць удзел у Тыдні супраць смяротнага пакарання, праводзіць уласныя мерапрыемствы.

Далучайцеся да Тыдня ў сацыяльных сетках праз выкарыстанне хэштэгаў #DeathPenalty #AbolitionNow #Belarus #We4Life2018.

**Паводле прэс-рэлізу**

# «Справа Скрыпалёў»: Чаму «сваім» не прабачаюць?

Алесь КІРКЕВІЧ

**У 1975 годзе СССР падпісаў Хельсінкскае пагадненне, якое сцвярджала непарушнасць межаў у паваеннай Еўропе. Саюз далучыўся і да Канвенцыі па правах чалавека: «халодная вайна» ўзяла паўзу. Тады ж, у 1975-м, была прыпыненая праца 1-га Галоўнага ўпраўлення «С» КДБ СССР, якое займалася ліквідацыямі за мяжой, на якое працавала ажно 14 ведамасных інстытутаў… Гэты канвеер смерці быў адноўлены пры Пуціне.**

Насамрэч, у 2000-х былі ўзарваныя, атручаныя ці застрэленыя дзясяткі чальцоў чачэнскага супраціву. Найбольш вядомы з іх — Залімхан Яндарбіеў, забіты ў Катары ў 2005-м двума супрацоўнікамі ГРУ, якія пасля былі затрыманыя. Наступнае рэзананснае забойства — былы афіцэр Літвіненка, тая знакамітая гісторыя пра палоній у кубку гарбаты. Будынак гатэлю ў Лондане, дзе жыў Літвіненка, фактычна ператвараўся ў «міні-чарнобыль».

Сёння ўвесь свет засяродзіўся на «справе Скрыпалёў». Зноў Вялікабрытанія, зноў былы афіцэр расійскіх спецслужбаў, зноў экзатычны спосаб забойства… Па ўсім свеце журналісты ды эксперты задаюцца пытаннем: навошта? Няўжо яно сапраўды таго каштуе? Іміджавыя і фінансавыя страты для Расіі пасля кожнага падобнага прэцэдэнту — неймаверныя. Думаць зараз пра зняцце санкцыяў — вельмі наіўна, хутчэй, варта чакаць новых. Каштоўнасць таго ж Скрыпаля як эксперта, што нібыта кансультаваў MI-6, мінімальная, бо, пакінуўшы сістэму з дзясятак гадоў таму, ды яшчэ адседзеўшы ў турме, той наўпрост згубіў кваліфікацыю. Ён — звычайны пенсіянер. Тады — навошта?

Чаму ж такая ўвага расійскіх сілавікоў скіраваная менавіта на былых «сваіх» — чытай, «здраднікаў»? Насамрэч, гэта адзін са слупоў КДБ-ФСБ: маўляў, «уваход — капейка, выхад — рубель». Чалавек, які працуе ў гэтай структуры, па-першае, адчувае страх: яго і яго сям'ю ў выпадку нелаяльных паводзінаў чакаюць сур'ёзныя наступствы. Па-другое, як ні дзіўна, ён адчувае гонар: яго структура такая крутая і мае настолькі доўгія рукі, што можа прыбраць ворага дзе заўгодна. Гэта трэнды, закладзеныя ў часы СССР і культываваныя ў сучаснай пуцінскай Расіі.

Хто ў свеце яшчэ займаецца забойствамі за мяжой? Канешне, Ізраіль, які пасля вайны выкрадаў ці забіваў былых нацыстаў, а пазней — дзеячаў «Хамасу» ды іншых мусульманскіх і тэрарыстычных структураў. Па-другое, падобная дзейнасць прыпісваецца ЗША: яны паслядоўна кропкава знішчаюць тэрарыстаў па ўсім свеце (ад Эскабара да Бен Ладана). У любым разе, Расія вылучаецца на гэтым тле. Толькі яна ў першую чаргу знішчае сваіх жа грамадзянаў. Толькі яна робіць з гэтага элемент палітыкі.

Насамрэч, узнікае і яшчэ адно пытанне: навошта пасля няўдалай спробы забойства Скрыпаля выпускаць на тэлеканал «забойцаў» — гэтую «салодкую парачку», якія нервова мармыталі нешта пра гадзіннік і шпіль сабора ў Солсберы? Сапраўды ж, камічна, няўжо нельга было падрыхтавацца, завучыць ролю? Камусьці гэта падаецца жудаснай некампетэнтнасцю і прафнепрыдатнасцю. Маўляў, ГРУ і ФСБ сёння працуюць настолькі тапорна, што падобныя пралікі робяцца нормай.

Я б не спяшаўся з высновамі. Па-першае, так званыя Пятроў і Башыраў маглі быць усяго толькі групай прыкрыцця, якую пры нагодзе не шкада і «зліць». Па-другое, і гэта найбольш імаверна, Расія наўпрост дэманструе свету: мы — можам. Можам ператвараць гатэль Літвіненкі ў «міні-чарнобыль». Можам пасля зрабіць Лугавога, які імаверна забіваў Літвіненку, дэпутатам. Можам атруціць два дзясяткі англічан (у Солсберы пацярпеў 21 чалавек) паралельна з выкананнем асноўнай задачы. Урэшце, можам выкарыстаць хімічную зброю ў самым сэрцы Вялікабрытаніі.

Можна доўга смяяцца з Пуціна, Шойгу і Кабзона, разбітых дарогаў і смярдзючых прыбіральняў бязмежнай усходняй суседкі. Але разам з тым, Расія — гэта сур'ёзна. Узгадайце нядаўнюю спробу захопу парламента ў Чарнагорыі (там таксама затрымалі ГРУшнікі). Узгадайце гульні Масквы з ультраправымі палітыкамі па ўсёй Еўропе — так званы «правы інтэрнацыянал Пуціна». Узгадайце, як з дапамогай СМІ Масква гуляецца з сацыяльнымі праблемамі Захаду, ад бежанцаў да феміністак, ператвараючы іх у праблемы палітычныя? Узгадайце — і стане зусім не весела.

Здаўна Расія з'яўляецца ценем Захаду: у псіхалагічным, фрэйдаўска-юнгіянскім сэнсе. Гэта любоў і нянавісць, замешаная на комплексах ад сваёй недасканаласці. У галоўнага крамлёўскага параноіка, імаверна, усё гэта замацавалася яшчэ і падчас службы ў ГДР: «Як яны, ворагі, якіх мы перамаглі, жывуць лепей?» Таму — гэта сур'ёзна і надоўга. А «Пятрова з Башыравым» мы, магчыма, яшчэ ўбачым дэпутатамі Дзярдумы. Не таму, што тыя здольныя разумныя хлопцы, а таму што Расія можа.

**Працяг тэмы на стар. 6–7**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Аздараўленне без лекаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У наступным годзе нас сапраўды чакае нейкая маштабная палітычная кампанія. Гэта бачна па тым, як ужо зараз заварушыліся ўлады, рэалізуючы ўяўна папулісцкія крокі.**

З найбольш важнага — наш любы Аляксандр Рыгоравіч падпісаў чарговы ўказ «Аб фінансавым аздараўленні сельскагаспадарчых арганізацый». Дакумент вельмі дзіўны.

Так, указам выключаецца правядзенне судовай працэдуры банкруцтва неплацежаздольных калгасаў. Судовыя працэдуры банкруцтва ў дачыненні да арганізацый, да якіх яны ўжо пачаліся, спыняюцца. Паўнамоцтвы на «ажыццяўленне фінансавага аздараўлення неплацежаздольных сельгасарганізацый» надаюцца старшыням райвыканкамаў.

Замацоўваецца права работнікаў (за выключэннем кіраўніка, яго намеснікаў і галоўнага бухгалтара) на захаванне працоўных адносін у сельгасарганізацыі, якая перадаецца ў арэнду або давернае кіраванне, на ўмовах, прадугледжаных працоўнымі дамовамі.

Прадугледжана таксама павелічэнне статутнага фонду гаспадарчага таварыства ў межах сумы запазычанасці, якая ўтварылася з перадачай акцый (доляў у статутным фондзе) ва ўласнасць крэдытора; заключэнне міравога пагаднення з крэдыторамі аб змене парадку выканання абавязацельстваў, і гэтак далей.

Указ змякчае нормы аб эмісіі абл- і райвыканкамамі каштоўных папер для перакладвання запазычанасці на мясцовыя органы ўлады; перадачы ўдзельнікамі гаспадарчага таварыства акцый ва ўласнасць крэдытора, поўнае альбо частковае вызваленне ад маёмасных абавязкаў па пагашэнні запазычанасці.

«Гэта правільны, стымулюючы фактар, — сказаў віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы. — Хіба краіна страціць, калі мы знойдзем эфектыўнага ўласніка, яго прастымулюем, а ён нам будзе даваць выручку?»

Але што атрымаецца, калі расказаць пра ўказ простымі словамі? Усё застаецца на сваім месцы. «Права работнікаў на захаванне працоўных адносін» дэ-факта азначае немагчымасць іх звальнення. А немагчымасць іх звальнення — значыць, немагчымасць перапрафілявання калгасаў. Які інвестар будзе набываць стратны і закрэдытаваны калгас, не маючы магчымасці ім распараджацца паводле свайго меркавання?

Ніякі. Ва ўладзе гэта выдатна разумеюць, таму пераклалі «фінансавае аздараўленне» на старшыняў райвыканкамаў альбо «передачу акцый ва ўласнасць крэдытора». Такім чынам, задачай ратавання стратных калгасаў зоймуцца альбо мясцовыя ўлады (чытай, на гэта пойдуць грошыкі з бюджэту), альбо банкі, якіх «добраахвотна-прымусова» абавязвалі выдаваць крэдыты сельскай гаспадарцы. І якая гэтыя крэдыты не вяртала.

«Нормы аб дадатковай эмісіі каштоўных папер» — увогуле дзіва. Колькі ні выпускай дадатковых акцый стратнага прадпрыемства, стратным ад гэтага яно быць не перастане. І чым будуць забяспечаны дадатковыя акцыі? Пазыкамі?

Самае цікавае: указ ніяк не прымушае варушыцца самі калгасы і іх працаўнікоў. Яны як былі на крэдытным, бюджэтным і іншым забеспячэнні, так там і застаюцца. А звольніць нядбайнага працаўніка па-ранейшаму немагчыма.

Такім чынам, стратную сельскую гаспадарку пераклалі «з хворай галавы на здаровую», па-сутнасці нічога не змяняючы ў яе сістэме. Канешне, і

**Лукашэнка меў рацыю, калі казаў, што многія кіраўнікі высокага рангу «закладалі за каўнер». Інакш адкуль у чыноўнікаў яго адміністрацыі настолькі дэталёвыя веды пра тое, дзе можна набыць алкаголь у часы забароны продажу?**

банкі, і райвыканкамы цяжка назваць «здаровай галавою», але кіраўнік краіны зрабіў адно — забяспечыў калгаснікам «стабільнасць» і захаванне іх устаноў. І толькі.

Дзякуючы кіраўніку дзяржавы ў чарговы раз пацярпела антыалкагольная ініцыятыва МУС і Мінгарвыканкама. Апошнія зноў паспрабавалі абмежаваць продаж алкаголю ўначы, матывуючы гэта ростам злачыннасці і правапарушэнняў. Лукашэнка распарадзіўся абмежаванні адмяніць на працягу сутак.

Прэзідэнцкія чыноўнікі, нібыта, занепакоеныя, што замест чаканага станоўчага выніку адбудзецца рост цяневога рынку і крымінальнай сферы, у тым ліку павелічэнне прапановы кантрафактнай прадукцыі. «Попыт заўсёды знаходзіць прапанову. Продажы гарэлкі тымі ж таксістамі, рост ужывання любых вадкасцяў з утрыманнем спірту, праблема кантрафакту... І, як вынік, павелічэнне колькасці правапарушэнняў і атручванняў, дадатковая нагрузка на сістэму аховы здароўя», — заявілі ў Адміністрацыі прэзідэнта.

Што мы бачым з гэтага? Тое, што Лукашэнка меў рацыю, калі казаў, што многія кіраўнікі высокага рангу «закладалі за каўнер». Інакш адкуль у Адміністрацыі прэзідэнта настолькі дэталёвыя веды пра тое, дзе можна набыць алкаголь у часы забароны яго продажу, і якія вадкасці можна ўжываць замест гарэлкі?

Канешне, забаронамі праблему алкагалізацыі насельніцтва не вырашыш, але насамрэч яна была даволі бяскрыўднай. На двухмільённы Мінск — хіба з дзясятак крамаў, якія гандлююць кругласуткава. Сумняваюся, каб забарона на начны продаж алкаголю істотным чынам паўплывала б на аб'ёмы гандлю. Але, мажліва, яна б спрацавала як стрымліваючы фактар для аматараў начной «дагонкі».

А вось для тых, хто больш заможны, пакуль ніякіх добрых навінаў няма. Міністр сувязі і інфарматызацыі Беларусі Канстанцін Шульган на тыдні паведаміў, што ліміт у 22 еўра, які існуе для бяспошліннага ўвозу тавараў у міжнародных паштовых адпраўленнях у Беларусь, можа быць павялічаны да 200 долараў і 31 кілаграма. Такі праект указа толькі «прапрацоўваецца».

Зазначым, што гэтыя нормы існавалі да красавіка 2016 года. А тады ўказам Лукашэнкі норма была зніжаная да 22 еўра на месяц. Бачна, гэта нічога не дало, але вяртаць усё назад не спяшаюцца.

Пэўныя праблемы ўзніклі ў «Белавіі». Яна планавала прадаваць «безбагажныя» квіткі па меншых коштах, але міністр транспарту і камунікацый Анатоль Сівак кажа, што для гэтага трэба ўнесці змены ў заканадаўства.

«Мы хочам, каб нас падтрымалі іншыя партнёры (не адзін Мінтранс прымае рашэнне, ёсць Міністэрства фінансаў, Міністэрства па падатках і зборах), і на кожным рэйсе «Белавія» былі квіткі, пра якія любіць пісаць спажывец «зусім танныя». Кошт такіх квіткоў таксама можа быць увязаны з пэўнай глыбінёй продажаў. Гэтая сістэма будзе падобная на прынцыпы працы лаўкостаў», — адзначыў Сівак. Але калі заканадаўства зменіцца? Невядома.

Такім чынам, мы бачым, што Лукашэнка паклапаціўся пра калгаснікаў і алкаголікаў. А пра тых, хто карыстаецца інтэрнэтам, замаўляючы тавары на «Аліэкспрэсе», ці лётае самалётамі — не. То бок, кіраўнік дзяржавы ашчасліваў выключна свой электарат. А значыць, разлічвае на іх падтрымку. То бок, хутка выбары?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Палітык, вайсковец, адзін з лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэсу лічыць, што падрыхтоўчы этап анексіі Расіяй Беларусі будзе завершаны на працягу паўгода.**

«Шматгадовыя падрыхтоўчыя намаганні Крамля па паглынання Беларусі блізкія да вырашальнага этапу. Працэс інкарпарацыі нашай краіны плануюць зрабіць незваротным на працягу бліжэйшага паўгода», — напісаў Статкевіч у Facebook.

Па яго меркаванні, яму зразумелыя дэталі крамлёўскага плана «бітвы за Беларусь»: па-першае, разгортванне ў краіне расійскага вайсковага кантынгенту; па-другое, выбары «саюзнага парламента» з шырокімі наднацыянальнымі паўнамоцтвамі».

На думку Статкевіча, гэта зробіць працэс паглынання Беларусі незваротным. «Калі на нашай тэрыторыі размесцяцца расійскія войскі, то ў патрэбны Крамлю момант яны змогуць узяць пад кантроль цэнтральныя органы ўлады Беларусі, як гэта было ў Крыме ў 2014 годзе. А «саюзны парламент» тут жа зацвердзіць паглынанне Расіяй», — лічыць палітык.

«Калі дыктатар пагодзіцца на расійскія войскі ў Беларусі і наддзяржаўны "парламент", то патрыётам давядзецца рыхтавацца да абароны незалежнасці нашай краіны. І не толькі з дапамогай заяваў пратэсту», — напісаў Статкевіч.

## Лідзія Ярмошына



**Старшыня беларускай ЦВК у чарговы раз не выканала свае абяцанні перад еўрапейцамі. Зменаў у выбарчае заканадаўства не будзе.**

Гаворачы пра парламенцкія і прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, якія па законе павінны прайсці ў 2020 годзе, Ярмошына сказала, што па-ранейшаму прытрымліваецца думкі пра неабходнасць развесці гэтыя кампаніі: адны выбары правесці ў 2019 годзе, іншыя ў 2020-м. Якія выбары будуць першымі, яна не ведае, і лічыць, што гэтае пытанне павінен вырашаць Лукашэнка.

Што тычыцца змены выбарчага заканадаўства, Лідзія Ярмошына сказала: пакуль ніякай працы ў гэтым кірунку не вядзецца. На яе думку, патрапіць патрабуюць зменаў у Канстытуцыі, а для гэтага патрэбны рэферэндум — яго пакуль не рыхтуюць.

«Мы яшчэ ў пачатку 2017 года перадалі свае прапановы кіраўніку дзяржавы. Ён сказаў, што спачатку трэба падумаць аб канцэптуальных зменах выбарчага заканадаўства, а ўжо потым адпрацоўваць асобныя яго элементы. Але паколькі кіраўнік дзяржавы не выказвае свайго погляду на тое, што лічыць канцэптуальнымі зменамі, праца па змяненні выбарчага заканадаўства пакуль не вядзецца», — сказала Ярмошына.

На дэмакратызацыі беларускага выбарчага заканадаўства не адно дзесяцігоддзе настойвае БДІПЧ АБСЕ. Кожны раз пасля выбараў Ярмошына кажа, што гэта будзе зроблена «на наступных выбарах». І кожны раз нічога не змяняецца.

## Віктар Ганчарэнка



**Трэнер-беларус зноў зрабіў немагчымае. Пад яго кіраўніцтвам ЦСКА ў Лізе чэмпіёнаў перамог адзін з найлепшых клубаў свету — мадрыдскі «Рэал». Гэтую перамогу Ганчарэнка прысвяціў памерламу нядаўна старшыні праўлення ФК БАТЭ Анатолю Капскаму.**

«Нягледзячы на тое, што ў мяне добры настрой, хацеў бы прысвяціць перамогу майму сябру, другому бацьку Анатолю Капскаму, які нядаўна пайшоў з жыцця. Для мяне гэта вялікая страта. Пасля кожнай гульні ён мне тэлефанаваў, віншаваў. Сёння б ён таксама парадаваўся гэтай выдатнай перамозе. Мы выдатна папрацавалі ў абароне, былі згуртаванымі, дзёрзкімі. Хуткі гол з аднаго боку ўзмацніў ціск, з другога — зняў ланцугі з нас. Трэба разумець, што супраць нас быў лепшы клуб свету. Яны ў любую хвіліну могуць стварыць момант і забіць. Да апошніх секунд нельга верыць, што ты выйграеш у «Рэала», але гэта адбылося», — сказаў Ганчарэнка.

«Мы атрымліваем асалоду ад сённяшняга вечара. Але хачу сказаць важную рэч: памятаю, які БАТЭ выйграў у «Баварыі» з лікам 3:0, і ў ім, дарэчы, гуляў Кроос. Гэта стала канцом той каманды ў БАТЭ. Спадзяюся, тут такое не паўторыцца, мы будзем далей расці і развівацца», — зазначыў Ганчарэнка.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# «Нафта ў абмен на пацалункі» — рэальнасць або метафара?

**«Беларуская мадэль» развіваецца не дзякуючы, а насуперак намаганням яе галоўнага архітэктара.**




«Колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе», — любіла нагадваць нядбайным студэнтам у гады маёй маладосці выкладчыца нямецкай мовы Варатніцкая. На жаль, не памятаю яе імя. З тых часоў, як я здаваў «тысячы», прайшло амаль паўстагоддзя. Апраўданне слабае, але іншага ў мяне няма.

Калі меркаваць па шматлікіх каментарах незалежных беларускіх экспертаў, з аналагічнай сітуацыяй можа сутыкнуцца і вяровачка беларускай незалежнасці, прычым, самым бліжэйшым часам.

«Бабіч як папярэднік аншлюсу. Ствараецца ўражанне, што з прызначэннем новага амбасадара ў Мінску Масква ўзяла курс на паглынанне Беларусі». Пад такім кідкім загалоўкам 31 жніўня апублікавала артыкул расійскае агенцтва «Росбалт». Артыкул быў аператыўна растыражаваны беларускімі СМІ. Зразумела, недзяржаўнымі.

Варта прызнацца, што тэма аншлюсу («аншлюс» па-нямецку — «далучэнне», «саюз») усплывае не ўпершыню. Падобна міне з гадзіннікавым механізмам, яна была закладзеная ў так званую Саюзную дзяржаву ўжо ў момант яе стварэння.

«Роўнасць для роўных», — сцвярджаў Арыстоцель. Разумны быў дзядзька. Для таго, каб быць роўным дэ-юрэ, неабходна быць роўным дэ-факта. Але ў Саюзнай дзяржаве адзін заснавальнік пераўзыходзіць іншага па ўсіх паказчыках мінімум на парадак. Адсюль цалкам лагічная прапанова ўвайсці ў склад Расіі «шасцю абласцямі».

### Імперыі бываюць розныя

Я не з'яўляюся прыхільнікам расійскага палітолага Андрэя Суздальцава, але неяк так атрымалася, што ў канцы верасня прачытаў на «Партызане» яго артыкул «Чарговы правал».

«Зимой и летом одним цветом», — гэта не загадка пра ялінку. Так расійскі палітолаг апісвае беларуска-расійскія адносіны. Але больш правільна было б казаць не пра міждзяржаўныя адносіны, а пра стасункі кіраўнікоў дзвюх дзяржаў, што пацвярджае ўжо першы абзац «Чарговага правалу»: «Шэсць гадзін перамоваў і ніводнага рашэння — аглушальны вынік сёмай за 2018 год сустрэчы прэзідэнтаў Расіі і Беларусі, што адбылася 21 верасня».

Правал ідзе за правалам, што, аднак, не перашкодзіла Беларусі імпартаваць з Расіі па льготных коштах энергетычных тавараў за апошнія восем гадоў (2010–2017 гады) на $ 98,5 мільярда. Гэтыя дадзеныя я запазычыў са «Статыстычнага штогодніка – 2018», апублікаванага ў канцы верасня.

Каб чытачы зразумелі глыбіню правалу, да апошніх дадзеных «Белстата» далучу разлікі Міжнароднага валютнага фонда. Прыводжу фрагмент артыкула «Утоены рахунак на $100 мільярдаў: як Расія ўтрымлівае беларускую эканоміку», запазычаны на сайце РБК: «МВФ у верасні 2016 года ацэньваў агульную падтрымку беларускай эканомікі з боку Расіі ў $106 мільярдаў толькі за перыяд 2005–2015 гадоў, або каля $9,7 мільярда на год. У розных гадах аб'ём «агульнай чыстай падтрымкі» ад Расіі вар'іраваўся ад 11% да 27%».

У якасці эксперта НІСЭПД аўтар гэтых радкоў на працягу шэрагу гадоў рыхтаваў штомесячны аналіз асноўных сацыяльна-палітычных і эканамічных падзей у Беларусі («Инфофокус»). Натуральна, не заставаліся па-за ўвагай шматлікія беларуска-расійскія эканамічныя «войны». Але кожны раз, прагназуючы перспектывы іх вырашэння, аўтар лічыў, што апошнія слова застанецца за беларускім бокам, і амаль ніколі не памыляўся.

Заўважу, што пры гэтым не было ніякай патрэбы ў інсайдарскай інфармацыі. Амаль беспамылковыя прагнозы рабіліся выключна на падставе разумення прыроды расійскай дзяржавы.

Сучасная расійская дзяржава, як і яе гістарычныя папярэднікі, з'яўляецца імперыяй. Мяркую, навіной гэта ні для каго не з'яўляецца. Але ў адрозненне ад імперый еўрапейскіх дзяржаў XVIII–XX стагоддзяў, своеасаблівых бізнес-праектаў, якія ствараліся для здабывання прыбытку з заморскіх калоній, Расійская імперыя — ідэакратычная. Яе асноўнай мэтай было прасоўванне месіянскай ідэі: першапачаткова праваслаўя, пазней — камунізму.

**«Нафта ў абмен на пацалункі» — гэта прыгожая метафара, і не больш за тое. Нікому, нідзе і ніколі яшчэ не ўдавалася абменьваць мільёны тон нафты на сумнеўныя паслугі эратычнага характару. У лепшым выпадку, на пярсцёнак з дыяментам**

За прэтэнзіі на месіянства даводзіцца плаціць. І Расія плаціла. Плаціла ў мінулым. Плаціць і сёння. Самы свежы прыклад — Крым, «далучэнне» якога нятанна абышлося расійскім падаткаплатнікам.

У другой палове ХХ стагоддзя пад еўрапейскімі бізнес-імперыямі была падведзена тлустая рыса. Гуманізм тут калі і адыграў сваю ролю, дык далёка не галоўную. Уся справа ў росце нацыянальнай самасвядомасці каланізаваных народаў, барацьба з якой істотна падвысіла выдаткі краін-метраполій. Прыбыткі ад эксплуатацыі змяніліся стратамі, што і прывяло да згортвання імперскіх бізнес-праектаў.

Замены камуністычнай ідэалогіі Расія не знайшла. Інтэлектуальная імпатэнцыя тут не пры чым. Ідэалогіі — гэта атрыбут індустрыяльнага свету з яго масавай вытворчасцю, разлічанай на масавага спажыўца, якому прапаганда лёгка ўнушала спрошчаную «карціну свету».

Але ў постіндустрыяльным свеце з яго базавым сацыякультурным тыпам чалавека, нацэленага на самарэалізацыю, такі нумар больш не праходзіць. Прыклад — Беларусь. Колькі б бюджэтных рэсурсаў ні накіроўвалася на падтрымку дзяржаўных СМІ, іх уздзеянне на мадэрнізаваную частка грамадства («меншасць») нікчэмнае.

### Сатырык і эканамічны рост

Расія, што страціла месіянскую ідэалогію, але так і не сфармавала тое, што сёння прынята называць «мяккай сілай», тым не менш, не пазбавілася ад патрэбы ў імперскай палітыцы. Тут напрошваецца прамая аналогія з фантомнымі болямі (суб'ектыўнае адчуванне існавання канечнасці пасля яе ампутацыі).

Адсутнасць «мяккай сілы» кампенсуецца сілай «жорсткай». Натуральна, пад раздачу, галоўным чынам, трапляюць бліжэйшыя суседзі.

Але хто ў сучаснай Расіі пакутуе ад фантомных боляў? Наіўна было б пры адказе на гэтае пытанне засяроджваць увагу на вузкай групоўцы так званага «кіруючага класа», а тым больш на яго персанальным лідары.

Класік расійскай сацыялогіі Юрый Лявада наступным чынам вызначаў асноўныя рысы савецкага чалавека, ад якіх так і не здолеў пазбавіцца чалавек постсавецкі: прымусовая самаізаляцыя, дзяржаўны патэрналізм, **імперскі сіндром** (вылучана. — С.Н.) і эгалітарысцкая іерархія (эгалітарызм — канцэпцыя, якая прадугледжвае стварэнне грамадства з роўнымі магчымасцямі для ўсіх яго чальцоў).

Да гэтага спісу-мінімуму варта дадаць патрэбу ў аўтарытарным лідары, на якога постсавецкі чалавек ускладае адказнасць за прыняцце ўсіх значных рашэнняў у жыцці грамадства і дзяржавы. Але якія рэальныя магчымасці лідараў у сучасным свеце, я праілюструю на прыкладах, запазычаных з інтэрв'ю расійскага эканаміста Алега Грыгор'ева.

Першы прыклад звязаны з пасляваенным «нямецкім цудам», які ў грамадскай думцы звязаны з імем першага федэральнага канцлера ФРГ Конрада Адэнаўэра. Здавалася б, тут няма падставы сумнявацца. Але з чым тады імем варта звязаць «італьянскі цуд»? Тэмпы росту італьянскай эканомікі ў тыя ж гады былі не ніжэйшыя за нямецкія. І гэта ва ўмовах, калі ўрады мяняліся як пальчаткі. Адных толькі міністраў эканомікі і фінансаў было не менш за 20! Каму канкрэтна прыпісаць поспех?

Другі прыклад эканаміст Грыгор'еў узяў, што называецца, «з жыцця». У 2005 годзе на губернатарскіх выбарах у Алтайскім краі сатырык Міхаіл Еўдакімаў перамог дзеючага губернатара Аляксандра Сурыкава, чым і паспрыяў змене апошнім адміністрацыйнай кар'еры на дыпламатычную (пасол Расіі ў Беларусі ў 2006–2018 гадах).

Каманда Еўдакімава была сабраная з варагаў паводле выпадковага прынцыпу. У прыватнасці, на ролю дарадцы па эканоміцы быў запрошаны Грыгор'еў. Яму і даю слова: «Калі прыйшоў Еўдакімаў, усе чакалі, што ўсё пачне развальвацца. Сапраўды, каманда, якая з ім прыйшла, нічога не разумела, нікога не ведала, спрабавала торгаць за нейкія нітачкі. Яны нічым не кіравалі, па меншай меры, у першы час. Пры гэтым у рэгіёне пачаўся эканамічны бум, пайшлі нейкія інвестыцыі».

Гэты парадокс дарадцы па эканоміцы патлумачыў адзін з мясцовых алігархаў: «Прыйшла новая каманда, мы спачатку крыху затаіліся, думалі, зараз будуць выклікаць, але ніхто не выклікаў, указанняў не даваў, ні за што справаздачы не патрабаваў. І мы пачалі самі прымаць рашэнні, дамаўляцца — вось і пайшоў эканамічны рост».

***

Не здзіўлюся, што і асобныя дасягненні «беларускай мадэлі» (Парк высокіх тэхналогій, сотавая сувязь) маюць месца быць не дзякуючы намаганням яе галоўнага архітэктара, а насуперак ім. Не варта перабольшваць яго ролю і ў датацыйнай падтрымцы з боку Расіі.

«Нафта ў абмен на пацалункі» — гэта прыгожая метафара, і не больш за тое. Нікому, нідзе і ніколі яшчэ не ўдавалася абменьваць мільёны тон нафты на сумнеўныя паслугі эратычнага характару. У лепшым выпадку, на пярсцёнак з дыяментам.

Сацыяльна-эканамічныя законы носяць аб'ектыўны характар. Таму не варта перабольшваць уклад так званых «нацыянальных лідараў» у агульны баланс поспехаў і паразаў.

# Алан Сміт беларускім уладам: Чакайце майго адказу…

Мікалай ДЗЯДОК

**Брытанец Алан Сміт, асуджаны ў Беларусі па абвінавачанні ў арганізацыі незаконнай міграцыі, выйшаў на волю 29 верасня. За кратамі ён правёў два гады. У аэрапорце яго сустрэла жонка Магда, якая ўсе гэтыя два гады вяла кампанію па яго падтрымцы і вызваленні.**



> **Я пацярпеў ад гэтай сістэмы, і хачу сказаць, што ў даўгу не застануся. У мяне ёсць што распавесці. Гэта і карупцыя, і жорсткае стаўленне да вязняў, і вымаганні. Хачу, каб беларускія ўлады мяне пачулі: чакайце майго адказу за ўсё тое, што вы зрабілі**

Сустракаць Алана таксама прыехалі журналісты, грамадзянскія актывісты, праваабаронцы. Але міліцыянты зрабілі ўсё, каб па дарозе на самалёт Алан Сміт не перасекся ні з кім і не здолеў нічога распавесці. Таму «Новы Час» паразмаўляў з былым вязнем, ужо калі той вярнуўся ў Вялікабрытанію.

***— Алан, раскажыце, як адбывалася ваша вызваленне?***

— З-за кратаў мяне выводзілі праз запасны выхад. Яны чакалі, што звонку мяне будуць сустракаць журналісты. Начальнік турмы спецыяльна дзеля мяне прыехаў у суботу ў калонію, каб упэўніцца ў тым, што я буду вызвалены «бяспечна».

Мне аддавалі мае рэчы, і я заўважыў, што сярод іх няма майго смартфона і ноўтбука. Я пачаў патрабаваць у начальнікам калоніі, каб мне іх аддалі, але той казаў: «Мы не ведаем, дзе яны». Безумоўна, яны хлусілі. Я вельмі моцна пасварыўся з начальнікам калоніі, літаральны крычаў на яго і сказаў, што не выйду адсюль, пакуль мне не напішуць паперу пра тое, што ў іх няма маіх рэчаў.

Безумоўна, гэта было зроблена для таго, каб па дарозе да аэрапорта я не мог звязацца ні з кім.

Калі мяне прывезлі ў мінскі аэрапорт, наперадзе мяне ішлі міліцыянты, якія правяралі ўсе ўваходы і дзверы — мусіць, кантралявалі, ці няма там журналістаў. Яны не хацелі, каб я ішоў на чэк-ін, таму ўзялі мае сумкі і зачэкінілі мяне самі. Але гэта незаконна, я мусіў зрабіць гэта сам, бо я сам ведаю, што ў маіх сумках.




**— Дзякуй усім вам за вашу ВЯЛІКУЮ падтрымку!**

***— Ці задаваліся вы пытаннем: чаму гэта са мной здарылася, якую выснову я павінен зрабіць?***

— Я па-ранейшаму лічу сябе невінаватым. І зрабіў выснову, што працягну змагацца з беларускай дзяржавай, якая кінула мяне за краты. Я бачыў, што яны баяцца супрацьву, яны хацелі, каб я маўчаў. Шматлікія мае лісты зніклі. Парушэнні правоў і законаў адбываліся паўсюдна.

***— Ці дапускаеце магчымасць зноў прыехаць у Беларусь у якасці турыста ці па бізнесу?***

— Я вельмі хацеў бы прыехаць у Беларусь зноў, але я змагу гэта зрабіць толькі праз год, калі скончыцца мой тэрмін забароны на ўезд. Многія вязні, дарэчы, здзіўляліся, бо думалі, што мне дадуць 5 ці 10 гадоў забароны. Але далі толькі год.

***— Ваша жонка пісала, што ў турме ў вас былі праблемы са здароўем.***

— Так, ёсць праблемы з рукой — у мяне металічная ўстаўка ў ключыцы. Вельмі пагоршыўся зрок. Пэўны час вельмі дрэнна сябе адчуваў. Таму мне сапраўды патрэбны час на рэабілітацыю.

***— Пра беларусаў ёсць стэрэатып, што яны вельмі памяркоўныя і ціхія, нават баязлівыя. Што ў іх хата з краю, яны эгаістычныя і атамізаваныя…***

— Беларусы — вельмі шчырыя і сардэчныя людзі. Мне дапамагала велізарная колькасць людзей, як у вязніцы, так і за яе межамі. Дапамагалі многія з тых, хто мяне нават не ведаў. Гэта мяне вельмі кранала і прымусіла моцна паважаць беларусаў. Былі такія людзі і сярод супрацоўнікаў калоніі. Хачу прыгадаць Марыю Эванс, доктарку-псіхіятарку, якой я вельмі ўдзячны за яе аграмадную працу і падтрымку. Але, на жаль, многія з беларусаў баяцца. Нават у той жа калоніі вельмі мала хто змагаўся за свае правы, працуюць штодзень менш чым за 1 беларускі рубель у месяц, але маўчаць. Людзі ведаюць, што іх могуць пакараць, і баяцца гэтага.

Я моцна пацярпеў ад гэтай сістэмы, і хачу сказаць, што ў даўгу не застануся. У мяне ёсць шмат што распавесці. Гэта і карупцыя, і жорсткае стаўленне да вязняў, і вымаганне з іх грошай. Мне вядома, што начальнік калоніі бярэ грошы за датэрміновае вызваленне вязняў. Альбо што ў турэмнай краме прадукты каштуюць у два разы даражэй, чым на волі. Альбо што вязняў прымушаюць падпісвацца на дзяржаўную прэсу — і многае іншае. Я працягну змагацца з усім гэтым. Хачу сказаць, каб беларускія ўлады мяне пачулі: чакайце майго адказу за ўсё тое, што вы зрабілі.

Нагадаем, 45-гадовы Алан Сміт быў арыштаваны ў верасні 2016-га ў Брэсце і праз 10 месяцаў знаходжання ў Віцебскім СІЗА асуджаны на два гады.

Прыехаўшы ў Беларусь, Сміт дапамагаў грамадзянцы Курдыстану, інвалідцы, якая законна, па візе, прыбыла ў Беларусь, аформіць дазвол на знаходжанне ў Беларусі. Пазней высветлілася, што тая жанчына разам са сваёй сям'ёй — усяго 6 чалавек — збіраліся мігравацць далей у Еўрасаюз. Алану, які не меў дачынення да перасячэння імі мяжы, інкрымінавалі арганізацыю незаконнай міграцыі. У судзе сваёй віны Сміт не прызнаў, заявіўшы аб ужыванні за кратамі катаванняў. Адмовіўся ён і ад прызнання віны ў абмен на абяцанне ўмоўна-датэрміновага вызвалення. З-за адсутнасці сваякоў у Беларусі, ён быў пазбаўлены права на атрыманне перадач ад іх і спатканняў з імі. Кіраўніцтва калоніі адмовілася выдаць сваякам дакументы для афармлення ўязной візы ў Беларусь для сустрэчы з Аланам.

Магдалена Валынска, жонка Алана, якую арыштавалі разам з мужам, але неўзабаве вызвалілі, пачала анлайн-кампанію ў падтрымку свайго мужа і напісала Аляксандру Лукашэнку. «Умовы, у якіх знаходзіцца муж, жахлівыя», — пісала яна.

Разам з Аланам Смітам у той жа калоніі адбывае пакаранне беларускі краязнавец Алесь Юркойць. Таксама з калоніі нядаўна выйшаў японскі мастак Дайчы Ёшыда. Асуджаны ў 2017-м на 4,5 года ўзмоцненага рэжыму за нелегальны правоз зброі, ён быў неспадзявана вызвалены 22 траўня 2018-га. Вярхоўны суд, які раней адмаўляўся пераглядаць справу Ёшыда, урэшце палічыў ягоны прысуд занадта жорсткім.




**— Сэр, гэты брытанскі вязень напісаў скаргу на англійскай пра парушэнні ў турме.**
**— Адкажы яму, што ён абавязаны пісаць на рускай з нумарам артыкулу — каб мы маглі прыкрыць нашую дупу.**
**— Аднак, сэр, ён не можа пісаць ці чытаць на рускай, а па законе ён можа пісаць на сваей роднай мове.**
**— Проста рабі, што я табе сказаў!!!**




**— Мне неабходна паразмаўляць з маім консулам асабіста. Вы сочыце за намі!**
**— Прыватныя размовы забароненыя!**
**— Гэта незаконна. Вы парушаеце Венскую Канвенцыю дыпламатычных зносінаў.**
**— Мы не прытрымліваемся міжнароднага права!**

# Як забівалі Скрыпаля

## Рэканструкцыя на падставе расследавання

Дзяніс ІВАШЫН

**У гэтым матэрыяле з дапамогай крыніц адкрытага доступу, на падставе атрыманай новай інфармацыі ад міжнароднай расследавальнай групы, мы рэканструюем спробу забойства Сяргея Скрыпаля і яго дачкі Русланам Башыравым і Аляксандрам Пятровым, падазраванымі брытанскім следствам меркаванымі кадравымі афіцэрамі Генеральнага ўпраўлення Генштабу Узброеных сіл РФ — колішняе ГРУ.**

Непасрэдным доказам магчымай датычнасці грамадзян РФ Руслана Башырава (прозвішча ў арыгінале — «Боширов». — заўв. аўт.) і Аляксандра Пятрова да спробы забойства Сяргея і Юліі Скрыпаль можна лічыць інтэрв'ю прапагандысткі Маргарыты Сіманьян, апублікаванае 13 верасня на інфармацыйным канале RT (колішні «Russia Today»). Адразу зазначым, што імёны гэтых падазраваных відавочна з'яўляюцца несапраўднымі і прыдуманымі, выкарыстоўваюцца дзеля прыкрыцця і пазбягання ідэнтыфікацыі іх сапраўдных асобаў і біяграфічных дадзеных.

Паводле інфармацыі, атрыманай з закрытых крыніцаў у выніку супольнага расследавання «The Bellingcat» і «The Insider», з вялікай доляй верагоднасці вызначаная асоба Руслана Башырава. Гэта палкоўнік Галоўнага ўпраўлення Генштабу Узброеных сілаў РФ Анатоль Уладзіміравіч Чапіга, 05.04.1979 г.н.


1 Чепига Анатолий Владимирович
Источник информации: СПО СК: АС "Российский паспорт"
1.1 Основная информация

**Фота дакументацыі з ФМС РФ / The Bellingcat & The Insider**

Высветлена, што ён служыў у 14-й асобнай брыгадзе спецназу ГУ ГШ (в/ч 74854, месца сталай дыслакацыі — Хабараўск). У снежні 2014 года кіраўнік РФ У.Пуцін надаў яму найвышэйшую дзяржаўную ўзнагароду — званне «Героя Расіі» за выкананне міратворчай місіі.

На той момант адзіным ваенным канфліктам, у якім наўпрост удзельнічалі Узброеныя сілы РФ, былі акупацыя



**Сяргей Скрыпаль і яго дачка Юлія**

Крыму і вядзенне баявых дзеянняў супраць украінскай арміі на Данбасе. Міжнародная выведвальная супольнасць InformNapalm напрыканцы верасня 2014 года зафіксавала падраздзяленне 14-й АбрСпН у раёне аэрадрому Мілерава ў Растоўскай вобласці — за пару дзясяткаў кіламетраў ад мяжы з Украінай. Вайскоўцаў з брыгадаў спецназу ГУ ГШ перакідвалі на тэрыторыю ўкраінскага Данбасу ў складзе дыверсійна-выведвальных групаў для выканання баявых задачаў. З улікам гэтай інфармацыі, цалкам мажліва, што Анатоль Чапіга атрымаў сваю «зорку героя» менавіта за ўдзел у баявых дзеяннях супраць Украіны.

Выкарыстанне для здзяйснення спецаперацыі ГУ ГШ у Солсберы вайскоўца старшага афіцэрскага складу, да таго ж Героя Расіі, можа сведчыць пра яе замову вышэйшым вайскова-палітычным кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі. Гэта ўскосна пацвярджае перадгісторыя інтэрв'ю з падазраванымі, якое было інсцэнаванае ад самага пачатку.

За дзень да яго, 12 верасня, Уладзімір Пуцін на Усходнім эканамічным форуме ва Уладзівастоку заявіў, што расійскім уладам вядома пра падазраваных у справе Скрыпалёў, і запэўніў, што з імі не звязана нічога крымінальнага (падаем у арыгінале):

***«В принципе, мы, конечно, посмотрели, что это за люди, мы знаем, кто они такие, мы их нашли. Надеюсь, что они сами появятся и сами о себе расскажут. Это будет лучше для всех. Ничего там особенного и криминального нет»,*** — зазначыў Пуцін, а на пытанне прапагандыста Сяргея Брылёва падкрэсліў, што яны з'яўляюцца цывільнымі асобамі. Пасля гэтага звярнуўся наўпрост да падазраваных:

*«Я хочу к ним обратиться, чтобы они нас услышали сегодня. Пускай они куда-нибудь придут — вот к вам в средства массовой информации».*

Загад галоўнакамандуючага, які, цалкам магчыма, асабіста ўзнагародзіў аднаго з падазраваных, быў выкананы своечасова і ў поўным аб'ёме. Характэрна, што камінг-аўт двух меркаваных «грушнікаў» быў інсцэнаваны не для тэлеканала Брылёва ВГТРК «Россия» ці іншых прапагандысцкіх рупараў Крамля — «Первый канал», НТВ, — але для галоўнага сродку інфармацыйна-псіхалагічнага ўздзеяння РФ за мяжой — каналу RT, разлічанага на замежную аўдыторыю.

Інтэрв'ю з Башыравым-Чапігам і Пятровым сфакусаванае перадусім на англамоўнага масавага гледача дзеля спробаў маніпулявання і наўпроставага ўздзеяння на яго свядомасць з мэтай разбіць аргументацыю брытанскіх следчых органаў непасрэдна на іх тэрыторыі.

Аднак, як было зазначана напачатку, менавіта гэтае інтэрв'ю і стала ўскосным доказам віны падазраваных з абсалютна адваротным эфектам і значэннем не толькі для замежнай аўдыторыі, але і для расійскай. Бо, калі спецслужбы РФ добра валодаюць ведамі і практыкай што да надання формы чыннікам, то пра іх змест відавочна маюць толькі апасродкаванае ўяўленне. Гэта даводзіць падрабязны аналіз ніжэй.



**Скрыншот відэа інтэрв'ю расійскага прапагандысцкага тэлеканалу RT**




**Фота з відэакамер назірання ў аэрапорце. Metropolitan Police/PA**

Фігуранты справы самі прызнаюць, што менавіта яны зафіксаваныя ў фота і відэасведчаннях брытанскай выведкі. Аматар англійскай готыкі — Башыраў-Чапіга, паводле сваіх жа слоў пра вядомы на ўвесь свет кафедральны сабор у Солсберы, не здольныя нават слушна вымавіць назву гэтай святыні. Абодва падазраваных для падмацавання сваёй легенды пра турыстычную мэту візіту не надаюць абсалютна аніякіх фота- і відэасведчанняў са свайго падарожжа, пра што зазначае сама Сіманьян.

Зробім рэканструкцыю падзеяў паводле наяўнай у адкрытым доступе інфармацыі.

Башыраў-Чапіга і Пятроў вылецелі 2 сакавіка 2018 года з Масквы з аэрапорту Шарамеццева ў Лондан рэйсам «Аэрафлоту» SU2588, прыляцелі а 15.00 (паводле мясцовага часу) у аэрапорт Гэтвік (Gatwick). Падчас праходжання праз выхадную браму з зоны мытнага кантролю яны патрапілі ў аб'ектыў камер вонкавага назірання.

Характэрна, што афіцыйны прадстаўнік МЗС РФ Марыя Захарава ў тыповай для яе правакацыйнай манеры зрабіла заяву адносна гэтых фотаздымкаў (пакідаем у арыгінале):

*«Либо это наложенные сверху фотографии дата и точное время, либо это сотрудники ГРУ России, которые научились ходить одновременно, но их образы запечатлены в двух разных фотографиях. Это такой, знаете, уже троллинг уровня бог».*

Калі ж уважліва прааналізаваць гэтыя два фотаздымкі і параўнаць з фота выхадной брамы з зоны кантролю, то атрымліваецца зразумелым, што «грушнікі» прайшлі адначасова праз два паралельныя суседнія калідоры гэтай брамы, але не праз адну.



**Фота выхадной брамы аэрапорту Гэтвік. Уверсе можна пабачыць камеры назірання, якія зафіксавалі Башырава-Чапігу і Пятрова / Google Map**

З аэрапорту на цягніку яны едуць у цэнтральны Лондан, прыблізна а 17.40 прыбываюць на станцыю Вікторыя. Затым на грамадскім транспарце дабіраюцца да станцыі Ватэрлоа, у раёне якой знаходзяцца паміж 18.00 і 19.00. Пасля едуць у гатэль «City Stay Hotel», што размяшчаецца ў Іст-Лондане на вуліцы Боў-роўд.




**Супрацоўнікі брытанскай паліцыі аглядаюць гатэль, у якім спыняліся падазраваныя**

На наступны дзень, 3 сакавіка, яны выходзяць з гатэлю, спускаюцца ў метро і прыкладна а 11.45 з'яўляюцца на станцыі Ватэрлоа. З гэтай станцыі на цягніку рушаць у Солсберы, прыбываюць туды прыблізна а 14.25, дзе, паводле версіі брытанскай паліцыі, здзяйсняюць рэкагнасцыроўку мясцовасці. У горадзе яны знаходзяцца зусім нядоўга. Ужо а 16.11 іх фіксуе камера на чыгуначным вакзале.

У «City Stay Hotel» яны вяртаюцца а 20.05. Паводле версіі падазраваных, прычынай іх хуткага вяртання з Солсберы ў Лондан быў нібыта «снежны калапс», праз які яны не маглі патрапіць да славутасцяў гораду. Аднак, паводле дадзеных паліцыі графства Уілтшыр, 3 сакавіка большасць дарог была ачышчана ад снегу, а, згодна з сервісам «timeanddate», у Солсберы не было аніякага снегападу.






Мапа Солсберы з месцамі фіксацыі камерамі вонкавага назірання Башырава-Чапігі і Пятрова 4 сакавіка 2018 года (час GMT, выкарыстаны сэрвіс Google Earth)

Фотаздымкі кафедральнага сабору ў Солсберы, зробленыя 3 сакавіка 2018 года, сведчаць пра тое, што вакол храму была невялікая колькасць снежнага покрыва.

У нядзелю, 4 сакавіка, яны зноў выпраўляюцца па сваім папярэднім маршруце: з дапамогай метро дабіраюцца а 08.05 на станцыю Ватэрлоа, едуць цягніком адтуль у бок Солсберы. Характэрна, што адразу яны накіроўваюцца не да мэты свайго падарожжа — Кафедральнага сабора Дзевы Марыі, — але ідуць у абсалютна супрацьлеглым кірунку ў раён прыватнай забудовы, у якім практычна няма турыстычных аб'ектаў.

Аб 11.48 іх фіксуе камера на выхадзе з чыгуначнага вакзалу Солсберы.

Праз дзесяць хвілін, аб 11.58, іх ужо фіксуе камера вонкавага назірання на аўтазапраўцы Shell V-Power, што знаходзіцца непадалёк дому Скрыпалёў на вуліцы Уілтан-роўд.

Далей яны, меркавана, збочваюць праз 90 метраў на Канадскае авеню, уздымаюцца 300 метраў уверх да авеню Святога Грыгорыя, ідуць праваруч да кварталу на Крысці-Мілер-роўд, напрыканцы якога, паводле версіі следства, наносяць баявое атрутнае рэчыва «Навічок» на ручку ўваходных дзвярэй дому Сяргея Скрыпаля. А 13.05 падазраваных фіксуе камера на вуліцы Фішэртун-роўд у цэнтры гораду, на шляху да чыгуначнага вакзалу.

Праз тры хвіліны іх фіксуе ў сваім сектары агляду яшчэ адна камера на Фішэртун-роўд.

А 13.50 яны трапляюць у аб'ектыў камеры, усталяванай на чыгуначным вакзале Солсберы, з якога выязджаюць у Лондан і прыбываюць прыблізна а 16.45 на станцыю Ватэрлоа.

Амаль праз дзве гадзіны, а 18.30, яны спускаюцца ў падземку і едуць у бок аэрапорта Хітроў. А 19:28 праходзяць кантроль сістэмы бяспекі і вяртаюцца рэйсам «Аэрафлоту» SU2585 назад у Маскву, куды прылятаюць а 22.30.

У гэты ж дзень колішняга двайнога агента, расійскага палкоўніка Сяргея Скрыпаля і яго дачку Юлію знаходзяць у крытычным стане на лаве ля гандлёвага цэнтру Maltings у Солсберы. Паводле брытанскага следства, яны былі атручаны нервова-паралітычным рэчывам «Навічок», распрацаваным яшчэ савецкімі вайсковымі навукоўцамі.

Паводле інфармацыі, якая стала даступнай з адкрытых крыніцаў, да свайго сёлетняга сакавіцкага візіту ў Лондан і Солсберы Башыраў-Чапіга і Пятроў былі ў Вялікабрытаніі як мінімум двойчы. Першы раз яны знаходзіліся ў Лондане з 17 па 23 верасня 2016 года. Наступным разам яны наведвалі брытанскаю сталіцу з 28 лютага па 5 сакавіка 2017 года.

Яны мелі дастаткова часу, каб спаталіць сваю прагу пабачыць славутасці Солсберы, і перадусім гатычны сабор Дзевы Марыі. Аднак, паводле іх слоў, яны вырашаюць адмыслова дзеля гэтага здзейсніць сваю трэцюю паездку ў Вялікабрытанію ўсяго на адзін дзень. Паводле дадзеных, атрыманых у выніку супольнага расследавання «The Bellingcat» і «The Insider», яны набываюць авіяквіткі 1 сакавіка 2018 года, за 15 гадзін да пачатку рэгістрацыі на авіярэйс з Масквы да Лондану.

Гэта цалкам супярэчыць іх версіі пра ранейшую запланаванасць турыстычнага падарожжа. Дадаткова версію «грушнікаў» пра турыстычную паездку разбівае і прыродны фактар — з канца лютага і да першых дзён сакавіка ў Брытаніі панаваў палярны цыклон «Звер з Усходу» (Beast from the East). Яго моц значна ўзрасла, калі на тэрыторыю Англіі абрынуўся ў дадатак яшчэ і самы магутны за апошнія 50 гадоў снежны шторм «Эма», штоператварыў асобныя рэгіёны ў зоны стыхійнага ліха.

Менавіта ў момант скасавання авіярэйсаў у Лондане, Глазга, Ньюкасле, абвяшчэння ў шматлікіх раёнах Вялікабрытаніі чырвонага ўзроўню трывогі, суцэльнага хаосу на дарогах, аматары гатычнай архітэктуры і мегалітычных пабудоў вырашаюць паляцець на адзін дзень у Лондан і Солсберы, каб наведаць кафедральны сабор, Олд Сарум і Стоўнхендж. Гэта нонсенс, легенда не вытрымлівае абсалютна аніякай крытыкі. Адзіным лагічным тлумачэннем гэтай раптоўнай паездкі ёсць тое, што акурат 1 сакавіка, раней за падазраваных, квіток на авіярэйс да Лондану на 3 сакавіка набыла Юля Скрыпаль, якая адмыслова ляцела наведаць свайго бацьку. «Грушнікі» мелі наўпраставае пацвярджэнне месцазнаходжання Сяргея Скрыпаля ў гэтыя дні.

Цікава, што, паводле дадзеных з пазначанай вышэй рэгістрацыі на авіярэйс, нумары замежных пашпартоў Руслана Башырава і Аляксандра Пятрова маюць аднолькавую серыю «65» і розняцца толькі адной апошняй лічбай, адпаведна: 65№4341294 і 65№4341297. Не менш цікава і тое, што намеснік расійскага вайсковага аташэ ў Польшчы, афіцэр ГУ Генштабу Узброеных сілаў РФ Эдуард Шышмакоў, які быў у 2014 годзе прызнаны польскім бокам персонай нон-грата і выдалены з краіны, меў замежны пашпарт з той жа серыяй і нумарам — 65№4341323, які адрозніваўся ўсяго на 28 і 25 пазіцыяй ад пашпартных нумароў Башырава-Чапігі і Пятрова адпаведна.



Фотаздымак пашпарту Эдуарда Шышмакова / Sky UK

Цалкам магчыма, ГУ Мінабароны РФ зазнае істотны кадравы голад сярод афіцэрскага складу, бо выкрытага польскімі спецслужбамі расійскага «грушніка» ў 2016 годзе ўжо з іншым прозвішчам («Шырокаў») накіроўваць для выканання задання ў Чарнагорыю. Аднак яго выкрываюць зноў, абвінавачваюць у падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту, спробах тэрарызму і абвяшчаюць паводле лініі Інтэрполу ў міжнародны вышук.

Расійскае выданне з Санкт-Пецярбургу «Фонтанка» выявіла яшчэ некалькі чалавек з нумарамі пашпартоў, якія адрозніваюцца толькі апошнімі лічбамі. Гэтак, напрыклад, на некалькі пазіцый раней за Башырава-Чапігу атрымаў замежны пашпарт грамадзянін з прозвішчам Андрэў, адразу за солсберыйскім «Героем Расіі» пашпарт з нумарам 65№4341295 быў выдадзены чалавеку з прозвішчам Крымскі, таксама ў зазначаным дыяпазоне нумароў зарэгістраваны пашпарт Аляксандра Палякова. Усе яны пазначылі ў якасці месца жыхарства аднолькавы маскоўскі адрас — Харашоўская шаша, 76Б. Гэты будынак уваходзіць у комплекс штаб-кватэры Галоўнага ўпраўлення Генштабу Мінабароны РФ.

Паводле інфармацыі, атрыманай «The Bellingcat» і «The Insider» ад сваіх крыніцаў у Федэральнай міграцыйнай службе РФ, вынікае, што службовыя дадзеныя пра выдачу ранейшых пашпартоў, біяграфічныя звесткі Башырава-Чапігі і Пятрова засакрэчаныя рэзалюцыяй ***«Сведений не давать»*** і пазначэннямі ***«Есть письмо»***, ***«С.С.»*** — цалкам сакрэтна.

Распачатая ФСБ праверка па факце раскрыцця асабістых дадзеных падазраваных Башырава-Чапігі і Пятрова сведчыць, што інфармацыя, атрыманая супольнай расследавальнай групай, сапраўдная.

Журналіст Патрык Рывэл з амерыканскага тэлеканала «ABC News» і Олівер Кэрал з брытанскага выдання «The Independent» патэлефанавалі на нумар «195-79-66», пададзены ў пазначэнні пра забарону надання інфармацыі, дадаўшы маскоўскі прэфікс: +7(499). Ім пацвердзілі, што гэта тэлефонны нумар Міністэрства абароны РФ.

Брытанскі бок абвінавачвае Руслана Башырава (Анатоля Чапігу) і Аляксандра Пятрова адразу па чатырох артыкулах — змова з мэтай забойства Сяргея Скрыпаля; спроба забойства Сяргея і Юліі Скрыпаль, паліцэйскага Ніка Бэйлі; захоўванне і выкарыстанне баявога атрутнага рэчыва «Навічок» з парушэннем Канвенцыі пра забарону хімічнай зброі; наўмыснае ўчыненне значнай шкоды здароўю Скрыпалям. Падазраваныя абвешчаныя ў вышук.

Спроба забойства Сяргея Скрыпаля ўзняла цэлы пласт праблематыкі што да вялікай небяспекі, якую нясуць цывілізаванаму свету расійскія спецслужбы. Таксама яна засведчыла той узровень дэградацыі і стану распаду, у якім знаходзіцца ключавы орган вайсковай выведкі Узброеных сіл РФ.

На жаль, Беларусь знаходзіцца ў зоне стратэгічных інтарэсаў Расійскай Федэрацыі, інтэграваная з ёй ва ўсе магчымыя вайскова-палітычныя і эканамічныя хаўрусы, мае вялікую колькасць агентаў расійскага ўплыву на ўсіх узроўнях сістэмы дзяржаўнага кіравання. Расійскія башыравы і пятровы актыўна дзейнічаюць і непасрэдна на тэрыторыі Беларусі, адным з яскравых доказаў гэтаму ёсць выкраданне ўкраінца Паўла Грыба.

Задачай палітычнай эліты і грамадзянскай супольнасці павінен стаць выхад з-пад кантролю РФ, узмацненне сістэмы нацыянальнай бяспекі і эканамічная незалежнасць. Праманруджванне з гэтымі пытаннямі можа каштаваць Беларусі суверэнітэту і незалежнасці.




Metropolitan Police/PA



**Кожны, хто мае пра іх інфармацыю аператыўнага значэння, заўважыў іх на тэрыторыі Беларусі і жадае дапамагчы расследавальнай групе, можа даслаць паведамленне на электронную пошту: salisbury2018@met.police.uk.**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРАНЦЫЯ. Фанацкія клубы замест фракцый

У французскім парламентарызме новыя павевы. Упершыню ў гісторыі дэпутаты сабраліся не згодна са сваімі палітычнымі поглядамі, а паводле клубных сімпатый. Такім чынам створаная «фірма» (так на слэнгу называюцца аб'яднанні заўзятараў), дэпутацкая група фанатаў марсельскага футбольнага клуба «Алімпік». У «фірму Алімпіка» запісалася аж 56 дэпутатаў. Ініцыятыва выклікала адпаведную рэакцыю ў дэпутатаў, якія заўзеюць за іншыя клубы. Рыхтуецца стварэнне аналагічных груповак дэпутатаў — фанатаў парыжскага клубу PSG і карсіканскага клубу «Bastia». Між тым, эксперты пабачылі ў кур'ёзе прыкметы вельмі важных трэндаў. На думку некаторых, мы маем справу з новай формай папулізму. За кошт каляфутбольных манеўраў палітыкі маюць надзею прыцягнуць галасы выбарчшыкаў, які ходзяць на стадыёны. Іншыя непакоіцца, што з'яўленне фанацкіх груповак пры парламенце ператворыць дэпутатаў у спартовых лабістаў, што пагражае катастрофай бюджэтнай палітыцы. Нарэшце, самыя песімістычныя каментатары звяртаюць увагу, што шмат парламентарыяў і раней не хавалі футбольных забабонаў. Аднак заўжды хобі было аддзеленае ад палітыкі. Тое, што адбываецца, маўляў, дае падставу казаць пра працэсы дэбілізацыі французскага палітычнага класу.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Аўтакефалія Украіны — пралог ВКЛ?

Ёсць такі расійскі палітолаг — Міхаіл Хазін. Як і шматлікія расійскія калегі, ён любіць фантазіраваць наконт хуткага падзелу Украіны. Праўда, у адрозненне ад іншых, Хазін не заклікае да вяртання Кіева ў склад Расіі, якой, маўляў, хопіць і рускамоўных рэгіёнаў Усходу і Поўдня. Кіеў, як і ўся гістарычная Маларосія (ад Чарнігава да Жытоміра), на яго думку, павінен стаць пратэктаратам Мінску. Што тычыцца праваых аспектаў, то юрыдычна такое фармаванне будзе аформлена пад соўсам адраджэння ВКЛ. Пры гэтым Хазін заўжды бачыў новае ВКЛ прарасійскім аб'яднаннем. Аднак апошнія царкоўныя падзеі ва Украіне прымусілі яго па-іншаму паглядзець на стан рэчаў. На яго думку, праектам адраджэння ВКЛ зацікавіліся на Захадзе. Пры гэтым там разумеюць, што такі праект патрабуе наяўнасці як мінімум аўтаномнай ад РПЦ праваслаўнай царквы. Падобную царкву цяпер і намагаюцца стварыць пры дапамозе Канстанцінопальскага патрыярхату. У перспектыве аўтакефальная ўкраінская царква стане падмуркам для асобнай праваслаўнай царквы ВКЛ-2. Вось такая версія...

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРГ. Галоўны вораг мовы года

Саюз нямецкай мовы падвёў вынікі незвычайнага конкурсу — галоўны вораг мовы года. У гэтым годзе нечакана пераможцам аказалася кіраўніцтва Футбольнага саюза Германіі (DFB). Паводле абаронцаў мовы Шылера і Гётэ, футбольныя функцыянеры ўвесь час пазбаўляюць мясцовы футбольны свет ад нямецкіх слоў на карысць англійскай лексікі. Кульмінацыяй англійскай асіміляцыі футболу, на іх думку, стаў мінулы Чэмпіянат свету ў Расіі, дзе нямецкія футбалісты гулялі ў майках з надпісам Germany — англійская назва Германіі. Акрамя таго, DFB зрабіла дэвізам зборнай англамоўны лозунг: «Best never rest». Як лічаць абаронцы нямецкай мовы, DFB павінна браць прыклад з харвацкіх калегаў. Тыя дамагліся, каб на форме зборнай Харватыі было напісана Hrvatska — арыгінальная назва Харватыі. Функцыянеры DFB у сваю чаргу адхілілі абвінавачванні, спасылаючыся на тое, што англійскія словы на футболках нямецкай зборнай былі патрабаваннем спонсараў Футбольнага саюза.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Штраф за пакет

З 1 кастрычніка 2018 года ў Грузіі ўступаюць у сілу новыя рэгуляцыі, накіраваныя на зніжэнне забруджвання навакольнага асяроддзя. У тым ліку ў краіне цяпер забараняецца вытворчасць, імпарт і рэалізацыя поліэтыленавых пакетаў пэўнай таўшчыні. А з красавіка 2019 года вытворчасць, імпарт і рэалізацыя поліэтыленавых пакетаў любой таўшчыні ў Грузіі будуць цалкам забароненыя. У выпадку парушэння правілаў гаспадарчыя суб'екты будуць аштрафаваныя на 500 лары (каля 200 еўра), а іх тавары канфіскаваныя. Забарона пакетаў — мера, безумоўна, слушная. Перыяд біялагічнага раскладання поліэтыленавых пакетаў — сотні гадоў. Адразу пасля выкарыстання пакеты ператвараюцца ў адкіды, якія выклікаюць забруджванне глебы і вады. Між тым, не ўсе грузіны ў захапленні ад акцыі ўраду. Пластыкавыя пакеты стабільна ўваходзяць у каталог тавараў дробных прадуктовых кропак, за кошт якіх выжываюць шматлікія грузіны. Пакуль не зразумела, чым будзе заменены пластык.

**Паводле грузінскай прэсы**

# Агідныя лялькі

Алег НОВІКАЎ

**Культурная вайна ў ЗША дацягнулася да самай папулярнай дзіцячай праграмы — «Вуліца Сезам». Кансерватары і лібералы спрачаюцца: ці сапраўды некаторыя героі шоў патаемна прапагандуюць каштоўнасці ЛГБТ.**

Ледзь не тры генерацыі амерыканцаў выраслі на праграме «Вуліца Сезам». Лялечнае шоў, першапачаткова заснаванае ў 1969 годзе, каб даць дзецям з бедных сямей асновы ведаў, даўно стала часткай амерыканскай і, напэўна, нават сусветнай масавай культуры. «Вуліца Сезам» і яе мясцовыя версіі траслююцца ў 150 краінах. Аўдыторыя праграмы, калі верыць інтэрнэту, складае больш за 150 мільёнаў чалавек.

Пазнавальнымі ва ўсім свеце сталі і лялькі — персанажы «Вуліцы Сезам». Сярод іх дуэт Эрні і Берт. Эрні — гэта нейкі стыхійны анархіст, які любіць авантуры, гучную музыку, вулічныя гульні і мае характэрны смех. Антаганістам Эрні выступае Берт — сумны тыпаж, аматар кніг.

Узаемасувязь супрацьлеглых персанажаў з'яўляецца адпраўной кропкай для сюжэтных ліній. Як правіла, Эрні хоча пагуляць, а Берт занадта заняты для гэтага. Эрні не адстае ад Берта да таго часу, пакуль той не ўключаецца ў гульню. У прынцыпе, напэўна, па такой формуле пабудаваны фабулы шматлікіх дзіцячых праграм. Так, Буслік з нашай «Калыханкі» падобны да Берта, а Цімошка мае рысы Эрні.

Доўгі час — прыкладна да пачатку 1990-х гадоў, — Эрні і Берт успрымаліся як звычайныя лялькі. Пакуль культурная рэвалюцыя не выйшла на новую стадыю. Тут жа ўзгадалі, што адносіны Эрні і Берта — гэта шаблон «салодкай парачкі». «Берт і Эрні — два дарослыя мужчыны, якія падзяляюць дом і спальню. Яны дзеляць вопратку, гатуюць разам ежу, маюць адкрыта жаноцкія характарыстыкі. У адным выпуску Берт вучыць Эрні шыць. У іншым яны разам займаюцца садовай гаспадаркай. Калі гэтыя двое не ўяўляюць гомасексуальны саюз, то я не магу сабе ўявіць, якім такі саюз павінен быць», — пісаў адзін з каментатараў напачатку 1990-х.

У кампаніі «Sesame Workshop», што робіць «Вуліцу Сезам», былі яўна не ў захапленні ад такіх публікацый. Паўстала пагроза для даўно наладжанага бізнесу. Відавочна, што бацькі ў кантэксце новых трактовак Берта і Эрні ніколі не дазволяць дзецям глядзець праграмы, якія прапагандуюць нетрадыцыйныя сексуальныя арыенцірі.

Давялося ісці ў контратаку. «Берт і Эрні, якія з'яўляюцца героямі «Вуліцы Сезам» на працягу 25 гадоў, не з'яўляюцца гей-парай, і ў будучыні гэтага рабіць не збіраюцца. Яны з'яўляюцца марыянеткамі, а не людзьмі. Яны створаныя для «Вуліцы Сезам», і яны былі распрацаваны, каб дапамагчы навучыць дашкольнікаў. Берт і Эрні — персанажы, якія дэманструюць дзецям, што, нягледзячы на іх адрозненні, усе могуць быць добрымі сябрамі», — гаварылася ў афіцыйным прэс-рэлізе кампаніі ад 1993 года.

Абсалютна памылкова думаць, што пасля падобных заяваў усе супакоіліся. У 2011 годзе Берт і Эрні сталі героямі новай кампаніі, што была разгорнутая гей-актывістамі. Апошнія патрабавалі, каб Берт і Эрні ажаніліся. Пад адпаведнай петыцыяй падпісаліся больш за 10 тысяч чалавек. У адказ прадзюсеры шоў выступілі з дзяжурнай заявай. «Персанажы не могуць быць гомасексуалістамі, бо не маюць сексуальнай арыентацыі», — гаварылася ў дакуменце. На карысць гэтага тэзісу таксама прыводзіўся незвычайны аргумент: «Хаця ў кватэры Берта і Эрні толькі адна спальня, яны спяць на розных ложках».

І цяпер у гэтай скандальнай гісторыі распачалася новая старонка. 22 верасня Марк Зальцман, адзін з асноўных сцэнарыстаў шоў, адкрыў новыя сенсацыйныя дэталі інтымнага жыцця Берта і Эрні. Калі верыць Зальцману, адносіны персанажаў былі праекцыяй на яго раман з рэдактарам праграмы.

Інфармацыя ад Зальцмана, мякка кажучы, спрэчная, паколькі той з'явіўся ў камандзе стваральнікаў «Вуліцы Сезам» толькі на 15-м годзе пасля старту праекту. На гэты момант сцэнічныя характары Берта і Эрні былі даўно распрацаваныя. Аднак у цяперашняй Амерыцы, дзе не на жарт канфліктуюць лібералы і кансерватары, навіна пра геяў-лялек стала сапраўднай інфабомбай.

Эрні і Берт — латэнтныя геі, катэгарычна сцвярджаюць ліберальныя рэсурсы. Яны заклікаюць стваральнікаў шоў не цурацца гэтага факту. Больш за тое, лялькі павінны адкрыта казаць пра свой выбар на экране. Кожнае дзіця, маўляў, павінна з дзяцінства зразумець, што людзі розныя, і да гэтага трэба ставіцца абсалютна нармальна. Антаганісты лібералаў радыкальна супраць змены фармату дзіцячай праграмы. Як піша калумніст аднаго з кансерватыўных выданняў, проста смешна казаць пра сексуальнасць у дзяцей дашкольнага ўзросту. У гэтым узросце трэба абавязкова ведаць асновы азбукі.

Думаецца, што пераможцам у гэтай дуэлі ўсё ж будуць кансерватары. У тым ліку таму, што іх пазіцыю падтрымліваюць у кампаніі «Sesame Workshop», дзе чарговым разам заявілі пра адсутнасць у герояў-лялек сексуальнай арыентацыі. У скрайнім выпадку ў кампаніі могуць проста ўвесці ў шоў лялек — сяброўк Берта і Эрні, паставіўшы кропку ў гэтым дыспуце.

А вось кропку ў культурнай вайне ў Злучаных Штатах наўрад ці можна паставіць так проста. Дарэчы, у інтэрнэце ўжо называюць яе наступную ахвяру. Маўляў, гэта будзе жабка Керміт, іншы персанаж, створаны «Sesame Workshop». Па сюжэце Керміт, які выконвае ролю вядучага шоў, мае інтымныя зносіны з лялькай-свіннёй Пігі. Паколькі Керміт выступае босам Пігі, усё гэта вельмі нагадвае гісторыю скандальнага прадзюсара Харві Вайнштэйна.



Фота www.gazeta.ru




Фота www.tdh.gov.tm

# Хурал бярэ ўладу

Алег НОВІКАЎ

**У Туркменістане дэ-факта прайшла змена дзяржаўнага ладу. Уся ўлада перайшла ў рукі Халк Маслахаты (Народная Рада) — аналага нашага Усебеларускага народнага сходу.**

Не толькі наш любы кіраўнік на пачатку сваёй кадэнцыі меў праблемы з парламентам, які блакаваў спробы выканаўчай улады пашырыць свае паўнамоцтвы. У большасці краін СНД адбываліся падобныя працэсы. Пытанне парламенцкай фронды кіраўнікі краінаў вырашалі па-рознаму. У тым ліку за кошт стварэння паралельных дзеючаму заканадаўчаму органу псеўдапрадстаўнічых структур, якія павінны былі «агучваць волю народа».

Яшчэ за тры гады да склікання першага Усебеларускага народнага сходу (1996 год) Сапармурат Ніязаў, сутыкнуўшыся з супраціўам парламенту, сабраў Халк Маслахаты. З таго часу іх збіралі рэгулярна. Ужо тады спецыялісты па дзяржаўнаму праву разводзілі рукамі. Дзве-тры тысячы чальцоў Халк Маслахаты, які прымаў заканадаўчыя рашэнні, нікім рэальна не абіраліся, прынцып іх прызначэння заставаўся незразумелым. Больш за тое, з часам гэты орган быў прапісаны ў Канстытуцыі.

Самае цікавае, што Халк Маслахаты аказаўся адзіным органам, які асмеліўся адкрыта супрацьстаяць Туркменбашы. У 2001-м 61-гадовы Ніязаў заявіў пра намер сысці з улады праз дзесяць гадоў. У адказ Халк Маслахаты ўзбунтаваўся: сабраўся і абвясціў Ніязава пажыццёвым кіраўніком. Праўда, узгаданы бунт не паўплываў на пазіцыю Захаду. Там няік не маглі зразумець, што такое Халк Маслахаты і як ён можа існаваць паралельна з дзеючым парламентам.

Магчыма таму пасля прыходу да ўлады ў 2008-м Гурбангулы Бердымухамедаў «па настойлівых просьбах калектываў прадпрыемстваў, установ і асобных грамадзян» ліквідаваў скандальную структуру. Праўда, часткова яго функцыі перайшлі сябрам Савету Старэйшын — яшчэ адназму малазразумеламу інстытуту туркменскай дзяржсістэмы, сябры якога, паводле статуту, павінны «даносіць мудрасць».

Пасля 2008-га пра Халк Маслахаты амаль забыліся. Пакуль раптам, у кастрычніку 2017 года, на пасяджэнні аднаго з рэгіянальных Саветаў Старэйшын была падтрымана ініцыятыва Бердымухамедава аб стварэнні прадстаўнічага органа народаўладдзя — Халк Маслахаты Туркменістана.

Спатрэбіўся яшчэ год, каб 25 верасня ў Ашхабадзе Халк Маслахаты правёў першае пасяджэнне. У зале сабраліся абраныя дэлегаты, кіраўнікі органаў дзяржаўнай улады, палітычных партый і грамадскіх арганізацый, дэпутаты парламенту, старшыні выканкамаў, паслы ў замежных краінах, старэйшыны, прадстаўнікі ўсіх слаёў насельніцтва, а таксама запрошаныя госці. Прысутныя, акрамя падзякі кіраўніку дзяржавы, падтрымалі ўсе яго ініцыятывы.

**Такі фармат мерапрыемства азначае, што ў краіне паўстала новая формула дзяржаўнага ладу. Адмяняецца нават фармальны прынцып падзелу ўладаў**

Такі фармат мерапрыемства, на думку юрыстаў, азначае, што ў краіне паўстала новая формула дзяржаўнага ладу. Па-сутнасці, цалкам адмяняецца нават фармальны прынцып падзелу ўладаў. З гэтага часу выканаўчая, заканадаўчая і судовая сістэмы ўваходзяць у склад Халк Маслахаты і падпарадкаваныя яго кіраўніку. Праўда, графіка сесій новага органу няма. Быццам, плануецца збіраць яго прыкладна раз на год.

Узнікае пытанне: нашто Бердымухамедаву, які і так канцэнтруе ўсю ўладу, гэты цырк? Туркменазнаўцы прапануюць два адказы. Магчыма, Аркадаг задумаў транзіт улады з мэтай перадаць штурвал сыну Сердару. Будзе сімвалічна, калі мандат на ўладу яму дасць Халк Маслахаты, які па сутнасці прадстаўляе ўсю вертыкаль і лаяльную супольнасць.

Іншыя эксперты бачаць за рэформай грымасы эканамічнага крызісу. Дарэчы, гэтага не хавае і кіраўніцтва, якое анансавала на пасяджэнні новую эканамічную палітыку. Словы пра новы эканамічны курс маюць крамольны падтэкст, паколькі раней афіцыёз спяваў дыфірамбы квітнеючай туркменскай мадэлі. Не змяніўся тон нават гэтым летам, калі выбухнуў дэфіцыт прадуктаў.

Выходзіць з крызісу, гледзячы па ўсім, Аркадаг збіраецца за кошт скарачэння сацыяльных артыкулаў бюджэту. Ужо вядома, што з 2019-га будзе скасаваны пакет ільготаў — бясплатнае святло, газ, вада, соль. Цяпер на ўсе гэтыя паслугі будуць уведзеныя тарыфы.

Праўда, «чэсныя» медыя Туркменістану падаюць гэтую навіну вельмі арыгінальна. Паводле іх, льготы ліквідуюцца праз... заможнасць грамадзян. Туркмены, маўляў, столькі зарабілі за гады незалежнасці, што цяпер могуць лёгка аплачваць жыроўкі. Яшчэ адзін аргумент для скарачэння сацыялкі — клопат пра прыроду. «Надышоў час падумаць пра тое, што прыродныя багацці павінны захавацца і для будучых пакаленняў», — заявіў туркменскі лідар. Менавіта мэтам эканоміі рэсурсаў і паслужыць новая «абгрунтаваная сістэма тарыфікацыі».

Наўрад ці людзі паверацьу такія аргументы і здымуць адказнасць з улады. І ў гэтым, магчыма, і палягала ідэя адрадзіць Халк Маслахаты. Як лічаць каментатары, у будучым улада можа прапускаць праз Халк Маслахаты найбольш непапулярныя рашэнні, імітуючы падтрымку знізу і пераводзячы стрэлкі з кіраўніка дзяржавы на іншых. У гэтым плане таксама не выключана, што туркменскае ноў-хаў пойдзе на экспарт у іншыя аўтарытарныя краіны Садружнасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Мішэль Цярэшчанка



Украінскі прадпрымальнік, прамы нашчадак выдатнага мецэната Міхаіла Цярэшчанкі, які ў тым ліку забудаваў увесь цэнтр Кіева, роўна чатыры гады таму адмовіўся ад французскага грамадзянства, атрымаў з рук Парашэнкі ўкраінскі пашпарт і трыумфальна перамог на выбарах мэра Глухава, што ў Сумской вобласці.

Калі верыць прэсе, галоўным чынам глухаўцы галасавалі за француза, кіруючыся прынцыпам: «Пан з Парыжа вярнуўся — ну цяпер мы зажывём!». Магчыма, Цярэшчанка і хацеў пазітыву для Глухава, але ў выніку яго эксперымент праваліўся. Яго праціўнікі сцвярджаюць, што мэр-француз запомніўся хіба што ідэяй па стварэнні ў Глухаве цэнтра тэрапіі каноплямі і рамонтам аднаго тратуара. Сам мэр тлумачыць правалы сабатажам дэпутатаў гарсавета, дзе большасць маюць былыя рэгіяналы.

Зараз Мішэль хоча ў прэзідэнты Украіны. Нягледзячы на сюррэалізм сітуацыі, практычна ўсе вядучыя выданні згадалі пра прэзідэнцкія амбіцыі Мішэля. У сувязі з гэтым пайшлі чуткі, што за Мішэлем стаяць тэхнолагі Парашэнкі. За кошт Цярэшчанкі партыя прэзідэнта, маўляў, хоча падарваць пазіцыі Юліі Цімашэнкі ў сельскай мясцовасці.

Між тым, у Парашэнкі з'явіўся яшчэ адзін апанент. Нечакана для ўсіх на другое месца ў рэйтынгу кандыдатаў у прэзідэнты выйшаў комік Зяленскі. Доўгі час ён ухіляўся ад афіцыйнай заявы пра ўдзел у выбарах, аднак, маючы такі высокі рэйтынг, напэўна, будзе балатавацца.

### Лаура Сміт



Дэпутатка брытанскага парламента ад Партыі лейбарыстаў заклікала да правядзення ў Вялікабрытаніі ўсеагульнага страйку.

«Таварышы, мы павінны зрынуць гэты жорсткі і бессардэчны ўрад торы, як толькі зможам. І калі мы не здолеем дамагчыся правядзення ўсеагульных выбараў, мы павінна пакласці канец гэтаму ўраду ўсеагульным страйкам», — заявіла яна на партыйнай канферэнцыі.

Падобных заклікаў Англія не ведала, напэўна, з далёкага 1926-га года, калі ў краіне прайшоў першы і пакуль адзіны ў гісторыі ўсеагульны страйк. Пратэстоўцы, якія выступалі супраць павелічэння працоўнага часу для шахцёраў, страйкавалі дзесяць дзён, з 4 па 13 мая. І вось прывід забастоўкі вяртаецца, што выклікала шок нават у лідараў лейбарыстаў. Некалькі чальцоў ценявога ўрада лейбарыстаў выступілі супраць рэвалюцыйных заклікаў аднапартыйкі. У тым ліку таму, што страйк 1926 года быў безвыніковы — прафсаюзы саступілі працадаўцам.

Праўда, крытыкі Лауры пры гэтым замоўчалі важны факт: страйк так напалохаў брытанскую эліту, што ў 1929-м яна дапусціла фармаванне лейбарыстамі ўраду, які не меў большасці ў парламенце. Так ці інакш, пасажы Лауры, якія, дарэчы, знайшлі падтрымку сярод шматлікіх лейбарыстаў, сведчаць пра рост радыкальных настрояў на Альбіёне.

### Эва Маралес



Першы ў гісторыі індзеец на пасадзе прэзідэнта Балівіі не здолеў рэалізаваць сваю мару — вярнуць Балівіі выхад да Ціхага акіяну, які яна страціла ў выніку вайны з Чылі ў далёкім 1883 годзе.

З тых часоў балівійцы неаднаразова патрабавалі аднавіць тэрытарыяльную справядлівасць, а чылійцы, у сваю чаргу, упарта ігнаравалі просьбы. Працягнуў барацьбу за акіян і Маралес, які вырашыў падключыць міжнародныя інстытуты. У Гаагскі трыбунал быў перададзены пазоў з патрабаваннем прымусіць Чылі пачаць перамовы аб вяртанні зямляў.

Канчатковае рашэнне павінна было быць агучана 1 кастрычніка. У гэты дзень уся Балівія рыхтавалася святкаваць перамогу. У цэнтры сталіцы на велізарным экране дэманстраваўся ў прамым рэжыме рэпартаж з Гаагі. На вуліцу выйшаў велізарны натоўп. Аднак у выніку 13 з 15 суддзяў трыбунала вырашылі, што Санцьяга мае поўнае права не ўступаць у перамовы з Балівіяй. Галоўны аргумент на карысць такога рашэння — тэкст мірнай дамовы ад 1904-га. Той дакумент, які чамусьці падпісалі балівійцы, замацаваў цяперашнія межы паміж дзяржавамі. Праўда, старшыня Гаагскага суда суцешыў Балівію заклікам да мірнага дыялогу з Чылі.

Зрэшты, наўрад ці Балівія адмовіцца ад сваіх прэтэнзій. Як слушна заявіў у свой час адзін з прэзідэнтаў краіны, «выхад Балівіі да акіяну нічога не зменіць для Чылі, аднак гэта зменіць лёс Балівіі».

# Смерць мачыхі

Палута БАДУНОВА



**Палута Бадунова пакінула сшытак з аповедамі, напісанымі прыгожым настаўніцкім почыркам, якія датуюцца 1923 годам. У ім тры аповеды: «Смяюцца... над сабою», «Думкі парабка» і «Смерць мачыхі». Прапануем адзін з іх. Тэкст падаецца з захаваннем арфаграфічных, марфалагічных і лексічных асаблівасцяў рукапісу.**

***

У палату № 3 Нясьвіжскае мястовай бальніцы ўвайшлі двое людзей — мужчына гадоў пад сорак пяць і кабета, на выгляд ужо старая, нават трохі згорбленая, мо ад хваробы, мо ад цяжкае працы. Твар кабеты быў зруйнаваны глыбокімі, як барозны ў полі, маршчакамі. Жывыя шэрыя вочы паглядалі навокала сябе з задзіўленьнем і страхам. Вопратка ўвайшоўшых людзей была беларуская вясковая. Адразу хворыя, якія ляжалі ў палаце, зразумелі, што мужык жонку прывёз на апэрацыю. «Рэзаць будуць», — нехта шапнуў у кутку.

— Паўлічак, — зьвярнулася кабета да мужа, — мо б ты пачакаў, мой галубок, пакуль мяне будуць рэзаць? Глыбокая складка прарэзалась адразу між бравей мужыка і незадавальненьне адбілась ясна на ўсім яго вялікім, яшчэ досыць маладым, але іспітым твары.

— Каню есьці ня ўзяў. Ці можна ж гэтак доўга, ажно да ночы, марыць жывёліну!

— Паўлік, ты каня больш шкадуеш, чымся жонку. Ну, але ж рабі гэтак, галубок, як лепш, як лепш рабі, паўтарала яна, як нешта згубіўшы. Мо так і трэба, пэўна ж каня шкода... Я сама шкадую. Едзь сабе дамоў, каток. Ласкавыя словы так і сыпаліся з яе пасінеўшых вуснаў. Здавалася, што яна баіцца выклікаць хацяб на хвіліну новы прылiў незадавальненьня на яго твары.

— Ты сама ўжо тутака неяк абыйдзесься, сказаў Паўлік больш мяккім голасам.

— Ага ж ага, ну як ужо ты хочаш, так і рабі.

А калі муж стаў выходзіць з палаты, яна толькі ціхім голасам прасіла, каб ён хаця кашульку чыстую прывёз:

— Мо памру, дык у бруднай будзе брыдка дамоў везьці.

Нічога не сказаўшы больш, нават не разьвітаўшысь, пасунуўся селянін да дзьверы, а яна, высунуўшысь усьлед за ім яшчэ раз паўтарыла:

— Дык, мой саколік, прыедзь хаця ў нядзельку адведаць, да не забудзь кашульку.

Потым бабка засуецілась, распранулась, зьняла кажух, цёплую кофту, з якой мястамі тырчала кудзеля, і засталась у сваёй звычайнай дамовай вопратцы.

На ёй была надзета зялёная суконная спадніца ў рознакалёрныя разводы, пашытая вельмі прыгожа, уся ў дробных закладачкі складзеная. Беларуская вясковая кабета ня толькі ўмее сама напрасьці і наткаць прыгожыя тканіны з крашаных суконных і льняных нітак, але яна мае добры густ на тое, каб пашыць спадніцу. Чырвоны хвартух з белаю пасмачкаю на нізу, ды і жоўценькая хустачка на галаве — вось і ўсё убраньне старой кабеты.

— Бабка, зьвярнулась да яе бальнічная сястра, заглянуўшы праз адчыненыя дзьверы ў палату, распраніcь саўсім, бо праз гадзіну будзешь мець аперацыю. І мне трэба цябе прыгатаваць да яе.

Бабка раптам загаварыла скора скора жаласным, нэрвовым голасам, як быццам была ў чымся вінаватая, як бы баючысь, што яе не зразумеюць, не захочуць слухаць «дурную вясковую бабу».

— А сястрыца, а панячка, а зорачка мая ясная, дазволь хвартушок не здымаць, бо грэх вялікі без хвартуха паміраць, і хустачку не здыму. Старая я, і грэх, мая зорачка, на той сьвет ісьці без чапца і бяз хустачкі. Як я стану з непакрытай галавой перад мачачкай Божжай.

— Што вы, цетка, загаманілі хворыя, во паглядзіце на нас, таксама пад нажом былі, а бачыце — жывы. І вы будзеце жывы, Бог дасьць.

— Аперацыя лёгкая, бабуся, саўсім лёгкая, сказала сястра, доктар сказаў, што ў вас грыжа, але сэрца яшчэ моцнае, і вы ні на хвілінку не пужайцесь.

— Не, мая лябедачка, не, чуе мае сэрца, што памру. Няхай сабе і памру. Усё роўна няма мне жыцьця на гэтым сьвеце. Мачыха я... А мачыху, вядома, усе ненавідзяць. Пакуль гадавала дзеці, мыла іх, чэсала, тагды яшчэ добрая была. А як толькі вырасьлі, пачалі лаяць мачыху, ня слухаць мяне. Усё добрыя людзі падучылі.

Сястра пачала гатовіць бабку к аперацыі. А бабка ўсё гаварыла і гаварыла. Здавалася, што хоча яна выліць усё, што накіпела на душы яе за доўгія гады цяжкага жыцьця.

— Памерці, дык памерці, а хворай мачыхі на сьвеце мейсца нема. Ось што, мае вы родныя.

Але не было часу ёй і гаварыць — наступіў ужо вечар. У палаце запалілі лямпу. З'явілісь два доктары, сестры і санітары за бабкай, каб забраць яе на аперацыю.

— Ну, цетка, сказаў старшы доктар, ці гатовая ты на аперацыю?

— Гатова, мой паночек, гатова, мой саколік, толькі дазволь хаця ж кашулькі не здымаць. На сьмерць іду, няхай хаця перад Богам голая ня стану.

— Ну ідзі сабе ў кашулі. І гаваруха ж яна, звярнуўся доктар да сястры, і ласкавая ўсьмешка праясніла яго худы, замучаны ад працы і бязсонных начэй твар.

Бабка паднялась з ложка. Зрэбная, непадшытая ў подалі яе кашуля выглядала жабрацкай вопраткай сярод сьнегова-белых халатаў медзікаў. Босыя жылістыя ногі няроўна выступалі з пад завярнуўшайся кашулі.

— Прасьціце, родныя, зьвярнулась яна да хворых. Іду на сьмерць. Божа міласцівы, Матка Божжа... памілуй мяне, Госпадзі...

Калі бабку ўвялі на аперацыю, сядзелка пачала громка сьмяяцца над цёмнай дзеравенскай бабай:

— Падумайце толькі, што яна больш за доктара ведае. Той кажа — аперацыя лёгкая, а яна заладзіла адно — памру дый памру. І заўсёгды так гэтыя вясковыя кабеты — дзівачаць! Усе паднялі бабку на сьмех. Ніхто не падумаў аб тым, што душа чалавека чуе і ведае іншы раз нязмерна больш, чымся самы вялікі прафэсарскі розум.

Пасьля аперацыі бабка зрабілась як непрытомная.

— А лябедачкі мае, паўтарала яна свае любімыя словы. Ці мяне яшчэ не зарэзалі? Мо я ўжо памерла? Мо мяне ўжо няма? Няўжож я яшчэ жыву?

Беднай бабке ўсё, што з ёй рабілась здавалась такім незвычайным, такім дзікім, што самая палата, мусіць, паказалася ёй якім-небудзь чыстцам альбо прадпакоем, адкуль дзьверы адчыняюцца прама да Бога, на суд Божы зьбіралась яна пайсці. А пакуль што яе па кутках судзілі хворыя і паціхутку сьмяялісь і перамаўлялі бабку «А мае лябедачкі, мо я ўжо ня жыву, мяне ўжо няма?»

Хворыя, якія ляжалі бліжэй і маглі падымацца з ложка, падавалі бабке вады і прасілі, каб яна многа не гаварыла за тое, што ёй можа зашкодзіць. Яе пасінеўшыя, запекшыяся вустны лавілі ваду з шклянкі, як расьліна дождж пасьля вялікае засухі.

— Я маўчу, маўчу, мае зязюлькі. Лепш заўтра вам штокольвек раскажу.

Для ўсіх было ясна, што бабка моцна любіла жыцьцё свае праклятае мачыхі, а ўсёжткі жыцьцё і страх перад сьмерцю, толькі гэты страх рабіў яе непрытомнай.

На другі дзень бабка пачула сябе лепш. І яе вялікія шэрыя вочы часта пазіралі з нямой таской на вакно — яна чакала мужа. Дый бабка і не таіла таго.

— Мо заўтра, а мо яшчэ і сягодні і Паўлік мой прыедзе і кашульку мне прывязе. Толькі ж ён мо яшчэ і ўспомніць аба мне. А то хто ж больш? Хто? Як былі дзеці малыя так-сяк было. Хаця ж гаспадар мой не надтта мяне любіў, ат так сабе, ведама, непрыгожая я і на дзесяць гадоў старэйшая ад яго. Мне ўжо пятьдзесят шасты гадок, мае зорачкі. А жаніўся ён на мне, каб дзетак яго даглядала. Я і даглядала, няхай Бог сьвяты мне за гэта адзякуе, а дзеці не, не дзякуюць. Дзяўчыне ўжо васемнаццаткі гадок пайшоў, а якая ад яе мне помач, а якая пацеха?! Украдзе з кубла палатно мае, што на старасьць хавала, дый прадасьць жыдам. Пайшла летам зелейка сьвіньням пазьбіраць — прынясе такога горкага, што і сьвіньні не ядуць. Пойдзе за вадой — у печцы выпаліцца, а яе ўсё няма: зайдзе к суседзям дый гуляе, надаражнеяцца нада мной. Ведама, біць ня можна — тады скажуць: мачыха злая, чужога дзіцёнка забівае. Ну, як здарова была, так сяк сама ува ўсім упраўлялася. Ото ж як паслаў ужо Божухна хваробу гэту — забалеў гэта мой жывот, ня можна мне стала постнага есьць. З'ем — духі мае запірае. Вот вазьму я і вальлю сабе лыжачку малака ў місачку, каб сербануць калівку, дык яна як закрычыць:

— Што ж ты сама жрэш малако, а нам нема! Не, брэшэт я і табе не дам, калі есьці дык усім, а не дык і не. Здохнеш — туды табе і дарога, нехта шкадаваць будзе, дасьць Бог, кублы мне ўсе застануцца. Так, родныя мае, вось гэтакае мае жыцьцё. Захварэла, саўсім бадай устаць не магу, вантробы мае вон выпадаюць, а мусіла сама бялізну сьціраць, дый яшчэ і Паўліку, і хлопцу меншаму.

— Ну а муж чаму цябе не абароніць? Чаму дзяўчыне не прыкажа што-небудзь рабіць па гаспадарцы?

— Мужык мой пьяніца і такі ж, зязюлькі мае, латруга, што і сам нічога не хоча рабіць. Усё жытца сама пажну - адна. Хаця б ён за адзін каласок узяўся. Людзі копы возяць, а ён пье і гуляе, пакуль жытечка тое не папрэе на полі.

Ай-яй, мае лябедкі! перабіла яна сама сябе, і дзікі страх пачуўся ў яе яшчэ слабым голасе. — Што гэта я вам кажу, а вы мо яму ўсё раскажыце, тагды я загіну!!!

— Не бойцеся, цетка, нікому не скажам. Ці ж мы якія злыя людзі, каб мужа з жонкай сварыць.

— Ну то-та, мае рыбачкі, — уздыхнула яна лягчэй. Мае ўсе жыцьце такое — плач, а маўчы. Ніхто не пашкадуе, усім я чужая. Усе паказываюць пальцамі — то ж вядома, мачыха. Адна толькі была душачка на сьвеце белым, што і мяне любіла. Ня мой сын, яго ж, мужыка майго. Сем гадкоў было. Хлопчык мой родны, як успомню — і цяпер плачу. Голас яе задрыжэў. Памёр ён. Бывала і чужыя, і злая дзяўчына вучаць яго, каб дрэнна на мяне пазіраў, дрэнна абыходзіўся. «Яна табе мачыха, — кажуць, — ня трэба яе любіць». А ён, анёлак Божжы, абшчэпя мяне за шыю дый цалуе, цалуе, гэтак жа моцна цалуе, дзяцётка мае залаценькае. Але ж ня даў Бог шчасьця, апошняя адняла сіла Божая: памёрла хлапчынятка — і ніхто ўжо, ніхто не пашкадаваў мяне на гэтым сьвеце.

Ціхі жаласны плач зазьвінеў у палаце. Бабку супакоілі, далі валерьяны і забаранілі больш гаварыць, каб не зашкодзіла. Ніхто ўжо не сьмяяўся з беднай мачыхі. Усіх агарнуў глыбокі жаль к гэтаму забітаму адзінокаму чалавеку, адно імя каторага — мачыха — нейкім пракляцьцем адзываецца ў душах людзей.

— Ня буду, ня буду гаманіць, галубкі мае, а то баюся доктара, мо будзе сварыцца.

Наступіла нядзелька, дзень, калі бабка чакала свайго Паўліка. Яшчэ зраньня прасіла яна суседку пазіраць у вакно, ці ня едзе ён. І недарма яна гэтак пільна чакала. Бабке стала горшыць. Пасінелі рукі.

— Што гэта мае рукі як смяртэльныя», — гаварыла яна ціха сваёй суседке, бо бачыла, што ніхто не верыць у яе сьмерць.

— Родныя мае, каб, здаецца, мне з'есьць чаго, мо б я і паздаравела. Гэтак жа хораша мне прысьнілася, што я капусту ем. Так бы, здаецца, хлестанула лыжачку-другую.

— Вот бачыш, бабка, ты ўжо капустку хочаш хлестаць, а кажаш пра сьмерць. Ня бойся, паздаравееш.

Прыйшоў і вечар, а Паўлік так і не прыехаў. Бабка пад вечар упала ў роспач, стагнала і охала. Некалькі разоў на часу крычала на ўсю бальніцу, што яна ўжо памірае, нават памерла.

Калі раніцай усе праснулісь, дык убачылі з вялікім зьдзіўленьнем, што бабка сядзіць, зьвесіўшы ногі з ложку і кудысьці зьбіраецца ісьці, хаця ж пасьля аперацыі ёй забаронен быў малейшы рух.

Прыйшла сястра, уклалі бабку зноў на ложка, і сястра з жалям ціха сказала суседзям, што бабка памрэ. Пульса саўсім няма.

— А мая ясачка, а мая зорачка, толькі доктару не кажы, што ўставала. Яно пройдзе, яно само пройдзе.

— Дзе ж пройдзе, калі мо кішкі ў жываце павярнуліся, — гаварыла, ледзьве не плачучы, сястра.

— Не, не, усё добра, усё добра, толькі б Паўлік прыехаў. Ці прыедзе ён сягодні, мае пралесачкі? Ці ўспомніць пра мяне, а то і памру ў бруднай кашулі.

Бабка канала у усіх на вачох. Вейкі пасінелі. А запекшыяся губы ўсё яшчэ жадна лавілі ваду з лыжачкі. Ужо яна трацiла памяць, калі раптам адчынілiся дзьверы і ўвайшоў яе муж. Пазнала яго.

— Паміраю, Паўлічак. Кашульку прывез? Як дома там, мой саколік? Запыталася і не чакаючы адказу адразу адвярнулась.

— Божа мой, Божа, што ж я нашчасны! Трэцяя жонка памірае, сказаў селянін, і дзьве крупныя сьлязы скаціліcь з вачэй пьяніцы мужа.

Бабка ўжо ім больш не цікавілась. Здавалась, што яшчэ чакала толькі кашулю. Але толькі так здавалась. Сэрца чалавека ці старога, ці маладога аднолькава жадае ласкі і прывета. Мо бабка хацела пераканацца ці ёсьць хаця б маленькі куточак у сэрцы яе мужа, гдзе і яна займала нейкае мейсца.

Шэрыя вялікія вочы ўміраючай глядзелі з зьдзіўленьнем на сьвечку, якую запалілі і трымалі над ёй. Сінія губы шэпталі: зорачкі, ясачкі, лябедачкі. Шэпталі, пакуль не замкнулісь навекі, гэтыя скорбныя вусны мачыхі.

**Палута Бадунова**
**Нясьвіж, марец 1923 г.**

**Падрыхтавалі**
**Уладзіслаў Гарбацкі**
**і Эльвіра Ярмоленка**

# У пошуках рэнамэ,

## альбо Яшчэ адзін ліст да Зянона

Славамір АДАМОВІЧ

**Падарожнае эсэ**

**Паважаны Зянон Станіслававіч! Памятаючы, што СЛОВА (ВЕРА) БЕЗ СПРАВАЎ МЁРТВАЕ (Евангелле ад Якуба 2:14-26), і ў сувязі з Курапацкай вартай, арганізаванай нашымі грамадзянамі пад варотамі ганебнай забягалаўкі «Поедем поедим», напрыканцы ліпеня правеў я адзіночны роварны трып маршрутам «Смаргонь–Астравец–Малі–Газа–БелАЭС–Сморгаўцы–Жодзішкі–Суботнікі–Юрацішкі», які прысвяціў гераічнай абароне нашых Гонару і Годнасці на Курапацкім Перыметры. Вандроўкай дасягнуў дзвюх мэтаў: выпадкова-планава спаткаўся з дачкой на радзіме яе дзядоў па кудзелі ў вёсцы Соргаўцы і наведаў Вашу радзіму — мястэчка Суботнікі. Але ўсё па парадку.**




### Мужычок супраць БЧБ, альбо Як пачынаецца беларускі велатрып

Вандроўка мая пачалася апаўдні 27-га ліпеня з чыгунвакзалу мястэчка Мар'іна Горка. На мне была чорная майка Саюзу беларускіх пісьменнікаў з надпісам «Пішыце, чытайце, думайце!» і літарамі беларускага кірылічнага алфавіту, а на веласіпедным рулі — наш бела-чырвона-белы сцяжок, які і стаў прычынай паказальнага для Беларусі часоў унутранай акупацыі канфлікту паміж грамадзянамі. Калі падышла электрычка, адзін з пасажыраў са словамі: «Куда ты лезешь со своей каракатицей?» паспрабаваў не пусціць мяне ў вагон. Доўга стаяць, перакрыўшы дзверы, ён не мог, я падняў свой велік з грузам, паставіў яго ў зручным месцы, а сам, стрымліваючы гнеў, прайшоў за дзёрзкім мужычком, сеў каля яго твар у твар і напаўголаса прашыпеў, што калі ён з гэтага мястэчка, з Горкі, то я яго запомню, і мы, хутчэй за ўсё, яшчэ перасячэмся… Пасля кароткай вербальнай пікіроўкі я вярнуўся на свабоднае месца бліжэй да ровару і рэшту дарогі да Мінску разважаў над тым, што адбылося.

А варта заўважыць, што гэта была ці не першая такога роду сутычка за ўсе гады майго жыцця ў беларускім кантэксце, калі незнаёмы грамадзянін, негатыўна зрэагаваўшы на колеры сцяжка, паказаў сваю гатоўнасць да агрэсіўных паводзінаў. Не, вядома, у мяне хапала розных сутычак, але гэта былі і ёсць канфлікты з рэпрэзентамі антыбеларускай улады. У другой палове 90-х меў месца запланаваны напад на мяне ў пад'ездзе дому, дзе размяшчалася рэдакцыя Дубаўцовай «НН», але той выпадак быў звязаны, хутчэй, з маёй прафесійнай дзейнасцю як журналіста, бо я тады пісаў выкрывальніцкія артыкулы пра дзейнасць антыбеларускіх груповак, у тым ліку і пра РНЕ. Гэтым разам ішлося пра чыстай вады грамадзянскую сутычку.

Паступова я супакойваўся, і чым слабейшымі рабіліся эмоцыі, тым мацней працавала шэрае рэчыва мозгу. Я своечасова ўспомніў, што ўзяў з сабою ТОЙ САМЫ нож, які праходзіў па крымінальнай справе нумар 182 паводле артыкула 213-га ч.3, які цяпер адменены. Гэты факт ускладняў сітуацыю: лагічна было меркаваць, што мужычок па прыездзе ў сталіцу можа паскардзіцца на мяне і мой сцяжок міліцэйскаму патрулю на вакзале. І тады мне не пазбегнуць затрымання і вобшуку. Так што расслабляцца мне не выпадала, і да самага прыбыцця электрычкі ў сталіцу я сядзеў і перабіраў у галаве сюжэты да апавядання пра жорсткае забойства свайго крыўдзіцеля ў вагоне электрацягніка. А паколькі мужычок быў з гарадка, дзе месціцца в/ч 3214 спецназу МУС і 5-я асобная брыгада спецпрызначэння, то гэтую акалічнасць варта было мець на ўвазе перш за ўсё, хоць душа і прагнула сатысфакцыі.

Тым часам чыгуначны транспарт набліжаўся да сталіцы, пасажыры ў вагоне змяняліся, і дзесьці пасля Рудзенску ў вагон зайшлі малады бацька з сынам-падлеткам і селі недалёка ад мяне. Па некаторым часе падлетак заўважыў на сярэднім пальцы маёй правай рукі пячатку ў форме кельцкага крыжа і, відаць, даў справаздачу бацьку, на што той паглядзеў у мой бок і гучна вылаяўся: «Б…дь, и не боится же».

Аднак на вакзале ў Мінску ніхто больш да мяне і маёй падарожнай атрыбуцыі прэтэнзіяў не выказваў, я спакойна сеў у электрычку, якая ішла да Солаў, і паступова сапраўды стаў супакойвацца, разглядаючы графіці на бетонных платах…

У Смаргоні я выйшаў, сеў на ровар і пакруціў педалі ў наш ліцьвіна-беларускі заходні рэгіён.

### Сімвалы мадэрнай Беларусі: германскі дот, беларускія назвы і беларускія могілкі

Першым жа гістарычным аб'ектам, які трапіўся на маім шляху ў Астравец, быў прысадзісты дот, верагодна часоў Першай сусветнай, бо вядома, што ў той час якраз праз Смаргонь пралягаў нямецка-расійскі фронт. Праз усю дарогу да Астраўца думалася пра гэтую бетонную спаруду, якая і праз сто гадоў па завяршэнні Вялікай Вайны нясе ў сабе глыбінны сімвалізм супраціву нават цаною немінучай смерці.

Праехаў паварот на Асінаўшчызну, звярнуў увагу на тую проста ганебную акалічнасць, што перакручаныя падчас польскай акупацыі назвы беларускіх вёсак, мястэчак і гарадоў, як у выпадку з Менскам-Мінскам, так і не былі вернутыя да свайго «прыроднага» стану ў падсавецкі перыяд. І толькі на трэцім дзясятку гадоў фармальна незалежнай Беларусі справа вяртання да свайго пачала рухацца ў патрэбным кірунку: пад Маладзечнам нарэшце перастала існаваць «Татаршчызна» і з'явілася Татаршчына — аўтэнтычная беларуская назва. У Докшыцкім раёне назва чыгуначнай станцыі «Крулевщизна» наблізілася да беларускага гучання і стала «Крулеўшчынай». Спадзяюся па невялікім часе яна нарэшце цалкам вернецца да беларускага варыянту і стане Каралёўшчынай. Тая ж зваротная метамарфоза чакае і назву станцыі «Парафьянов», якую старажылы называюць няйнакш як Пархвенава.

Дарогай да Астраўца напаткаў такія знаёмыя назвы, як Лубянка і Васюкі. Узняўся настрой, калі рабіў сэлфі на фоне дарожнага знаку «р.Сікунька». Заязджаў на невялікія і разам з тым даўнія могілкі, дзе абавязкова знаходзіліся надмагіллі з надпісамі па-нашаму, па-беларуску. Праўда, за ўвесь час вандроўкі так і не сустрэў я адмысловых надпісаў па-ліцьвінску, таму не ведаю, што тут могуць патлумачыць сучасныя «ліцьвіны», якія ўзяліся праціставіць сябе мадэрновай Беларусі.

А на могілках у Солах кінулася ў вочы, што ці не палова новых надмагілляў таксама выкананыя па-польску, як і старыя «запольскіх» часоў. Адпаведна, другая палова — рускамоўныя. Зайшоў у Сольскі касцёл найсвяцейшай панны Марыі Ружанцовай ды пачуў службу па-польску, што адразу ж ускалыхнула ўва мне як у беларусе нядобрыя думкі адносна каталіцкай царквы і патлумачыла сітуацыю з надмагіллямі па-польску.






Як і падчас ранейшых маіх роварных вандровак, і гэтым разам мушу канстатаваць абуральны факт, што на беларускіх аўтамабільных дарогах катастрафічна не хапае дарожных знакаў, і гэта стварае дадатковыя нязручнасці, асабліва для турыстаў. Мала падпісаць паперку пра 30-дзённы бязвізавы рэжым гасцявання ў краіне — варта ствараць, і хутчэй як найхутчэй стварыць, адпаведную інфраструктуру…

27-га ліпеня каля 9-й вечара я быў у Астраўцы. Зазірнуў у мясцовую гасцініцу, нібы ў Савецкі Саюз першай паловы 80-х, калі я па выходных толькі-толькі пачаў знаёміцца са сталіцай БССР, бо ў будні ўкалваў на станказаводзе. Гасцініца сустрэла амбразурай-вакенцам, за якім сядзела класічная савецкая адміністратарка і даводзіла да адзінокага наведніка, што свабодных нумароў няма. Я пагледзеў цэннік у вывешаным прэйскуранце (самы танны нумар — 18 руб.) і выйшаў на вуліцу. Першы ж мінак, якога спыніў, каб нешта спытаца, растлумачыў, што ён «приезжий», і нічога тут не ведае, акрамя работы на АЭС і гасцініцы, якая заселеная такімі, як ён. Змяркалася, і мне прыйшлося аператыўна адшукаць гарадское вадасховішча, пад камарыны піск паставіць палатку на беразе і перакусіць. Сярод ночы пайшоў і да раніцы цурболіў дождж. У нагах крыху падмачыла, але я заставаўся на пазітыве. А 8-й раніцы наступнага дня я ўжо быў «на сядле». Адразу за горадам убачыў новыя астравецкія могілкі і таксама не мог абмінуць.

Да гонару мясцовых камунальнікаў, клады арганізаваныя зручна, бо падзеленыя на шэрагі, паміж якімі можна хадзіць, не наступаючы на магілы, і лёгка шукаць патрэбнае пахаванне. Пры беглым аглядзе знайшоў штук пяць «сваіх», з надпісамі па-нашаму. Такія магілы ўспрымаю як месцы супакою без перабольшвання блізкіх мне людзей і адчуваю ўдзячнасць нашчадкам і сваякам памерлых. Практычна на кожнай магіле можна сустрэць надпіс, у якім знойдзецца хаця б адна літара, якая будзе сведчыць, што тут пахавана менавіта беларуская душа. Напрыклад, чытаем: «Верабей Гелена Юстиновна» і разумеем, што натуральнае прозвішча спачылай — няважна, дзявочае ці па мужы — было «ВерАбей».

Альбо вось яшчэ, ужо з іншых могілак, дзве душы пад адным надмагіллем: «Лукашевич ЯадИя» 1912 года нараджэння і «Лукашэвич Ганна» 1910-га. Відаць, сёстры Ядзя і Ганна. Знаходзім яшчэ, здаецца, гэта помнікі ўжо з іншых могілак, у вёсцы Дайлідкі. Тут цалкам беларускамоўнае надмагілле па Алітойці Рыгору з пранікнёнымі словамі: «Ці раней, ці пазьней нас абдыме зямля, адпускаючы душы да неба».

**Працяг будзе**

# Добраму добрая памяць

**Прысвячаецца светлай памяці беларускіх настаўнікаў, што загінулі ад рук сталінскіх катаў**



**По гарызанталі:** 5. Урачыстая песня як сімвал дзяржаўнага адзінства. Словы ... БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» належаць Макару Краўцову, паэту, перакладчыку, настаўніку, які выкладаў у Мінску, быў сябрам Галоўнай управы Таварыства беларускай мовы (ТБМ). Загінуў у сталінскіх лагерах у 1939 годзе. 6. Спосаб бегу каня. 9. «Я не забуду ніколі\\ Сшыткі, пеналы, буквар,\\ Першыя радасці ў школе,\\ Першай настаўніцы ...». З верша «Першая настаўніца» Сяргея Грахоўскага, паэта, які настаўнічаў на Случчыне, на пасяленні ў Расіі; шмат гадоў пакутаваў у сталінскіх лагерах. 10. Корань вучэння горкі, ды ... яго салодкі (прыказка). 12. Настаўнік у школе, як ... у полі (прыказка). 15. ... ці Пелагея Бадунова. Імя дзяячкі беларускага нацыянальнага руху, настаўніцы, якая працавала ў школах Гомельшчыны, Мінска. У 1918 годзе ўдзельнічала ў адкрыцці беларускіх школ і дзіцячых прытулкаў. Расстраляная ў Мінску ў 1938 годзе; у Курапатах усталяваны крыж з яе імем. 17. Добраму добрая ... (прыказка). 19. Гульня з драўлянымі або пластмасавымі слупкамі. 21. У старажытных егіпцян свяшчэнны бык. 22. Тое, што і пуня. 23. Касьба. 25. ... Гарэцкі. Імя беларускага пісьменніка, педагога, драматурга, аўтара слоўнікаў і падручнікаў, які працаваў настаўнікам у Віленскай гімназіі, выкладаў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Расстраляны ў турме Вязьмы ў 1938 годзе. 27. ... Луцкевіч. Імя беларускага публіцыста, мовазнаўца, настаўніка, выдаўца, які выкладаў у Віленскай гімназіі, заснаваў Беларускую школьную раду, узначальваў Урад БНР. Загінуў у сталінскіх лагерах у 1942 годзе. 28. «Кароткі ... гісторыі Беларусі». Адна са шматлікіх прац Усевалада Ігнатоўскага, буйнейшага беларускага вучонага, педагога, першага прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук, прафесара Белдзяржуніверсітэта. Паводле адной з версій, быў застрэлены ў сваім доме супрацоўнікам ДПУ (сённяшні КДБ).

**По вертыкалі:** 1. «Латае халацік...\\ На ўслоне матка:\\ У школку заўтра пойдзе\\ Іх сынок ... !» З верша Якуба Коласа «У школку». 2. Ніз судна, пасудзіны. 3. ... — лепшы настаўнік (прыказка). 4. ... Смоліч. Імя выдатнага беларускага педагога, вучонага, прафесара, аўтара многіх падручнікаў, які быў першым старшынёй ТБМ. У 1938 годзе быў расстраляны ў турме Омска. 7. Шчаслівы ... — шчаслівыя вучні (прыказка). 8. Прадстаўніца дробнапамеснага дваранства. Ёю была Каміла, педагог, кампазітар, дачка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якая на пачатку 1860 гадоў арганізавала ў Мінску школы для дзяцей беднаты. Расійскім царскім урадам была выслана на Поўнач, захварэла і хутка памерла. 13. «Гэй, збірайцеся, крывіцкія дзеці,\\ Пад народны, пад горды наш ...». З верша Ларысы Геніюш «Моладзі». 14. Рака, на беразе якой у 1906 годзе настаўнікам К. Міцкевічам (Якубам Коласам) быў сабраны Першы нелегальны з'езд настаўнікаў, за арганізацыю якога царскі ўрад пакараў паэта трыма гадамі зняволення ў мінскай турме. 16. Высокае вучонае званне, якое было прысвоена Язэпу Лёсіку, педагогу, мовазнаўцу, аўтару шматлікіх падручнікаў, роднаму дзядзьку Якуба Коласа. Працаваў ён настаўнікам у Бабруйску, выкладаў у Белдзяржуніверсітэце. У 1940 годзе выдатны вучоны, педагог быў расстраляны ў Саратаўскай турме. 17. Мнагаслоўнае пісанне розных папер куды-небудзь (размоўнае). 18. «Пад сцягам бел-чырвона-белым,\\ За волю, праўду, за ...». З верша Алеся Змагара «Даволі здзекаў і прымусаў». 20. ... Езавітаў. Імя педагога, выпускніка Віцебскага настаўніцкага інстытута, публіцыста, беларускага палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча, які, жывучы ў Латвіі, займаўся арганізацыяй беларускіх школ. Расстраляны ў Мінску ў 1946 годзе. 24. ... без кнігі — дзень без сонца (прыказка). 26. Сымон ... -Міхайлоўскі. Поўнае прозвішча беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, публіцыста, педагога, які настаўнічаў у школах Беларусі, быў дырэктарам Мінскіх першых настаўніцкіх курсаў. Расстраляны сталінскімі катамі ў Мінску ў 1938 годзе.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Слаўся, пан Астрожскі!» (НЧ №32 ад 7 верасня):**

**По гарызанталі:** 1. Гетман. 4. Слава. 7. Герб. 9. Юрый. 10. Мсціслаў. 12. Лог. 13. Адпор. 14. Максім. 16. Абіркі. 17. Народ. 19. Рцы. 20. Канікулы. 23. Ясна. 25. Кроў. 26. Слайд. 27. Вялікі.

**По вертыкалі:** 1. Гаюн. 2. Трыадзіны. 3. Ар. 5. Луі. 6. Вал. 8. Багема. 10. Марціра. 11. Ашмянцы. 12. Ластоўскі. 15. Дабрак. 18. Маці. 21. Ніл. 22. Кій. 24. Ля.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навіну». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №882

Падпісана да друку 05.10.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.